Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 603 Верасень-Кастрычнік, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Рэдакцыя прапануе вам чарговы, 603, нумар нашай газэты. Гэтым разам ён таксама стаўся падвойным за два месяцы верасень і кастрычнік. Выбачаемся, але мусілі так зрабіць у сувязі з тэхнічнымі прычынамі страты інфармацыі на кампутары.

Першыя восеньскія месяцы былі насычаныя рознымі адметнымі падзеямі, як на нашай Радзіме, так і ў жыцьці беларускай эміграцыі ў сьвеце. У гэтым выпуску мы больш надаем увагі падзеям у беларускіх асяродках у замежжы. Шырока адзначаўся сярод беларускай эміграцыі, як і ў самой Беларусі, 25-гадовы юбілей Беларускага народнага фронту, сьвята супала з адзначэньнем Дзядоў. Традыцыйна адбылося ўшанаваньне памяці памерлых на беларускіх могілках у Нью-Брансьвіку.

Сярод падзеяў культурнага жыцьця варта адзначыць прэзентацыю ў Саўт-Рывэры новай кнігі Янкі Запрудніка пра беларускія фестывалі ў Нью-Джэрзі, а таксама адзначэньне у Нью-Ёрку 110-х угодкаў ад нараджэньня паэткі Натальлі Арсеньневай.

Асабліва шмат у гэтым нумары віншаваньняў з нагоды адметных датаў і падзеяў. Нагадаем, што набліжаюцца сьвяты Калядаў і Новага году, і вы можаце ўжо думаць пра тое, каб дасылаць у газэту свае віншаваньні тым, каго вы шануеце і хочаце зрабіць ім прыемнасьць.

Хочацца зьвярнуць вашу ўвагу і на сумную старонку ў газэце з артыкулам пра катастрофу расейскага карабля, дзе загінулі і беларусы. Можа, сярод іх вы знойдзеце і вядомыя вам імёны. Аўтар артыкула, сп. Валер Барташ з Севастопаля, падае дакладны сьпіс ахвяраў той трагедыі савецкага часу.

Калі вы дасылалі ахвяраваньні на выданьне газэты, вы знойдзеце свае імёны ў сьпісе ахвярадаўцаў, а калі Вашага імя там няма, то гэта добры напамінак, каб яно зьявілася ў наступных выпусках, дзеля гэтага не пашкадуйце цяжка заробленых даляраў на ахвяраваньне, бо і газэту рыхтаваць і друкаваць таксама каштуе немалой працы. Жыцьцё яе мы мусім падтрымліваць разам.

Прыемнага вам чытаньня

*Рэдакцыя*

## Заява Рады БНР

Прэзыдыюм Рады БНР, «спасылаючыся на Рашэньне Рады Эўрапейскага Зьвязу 2012/642/CFSP ад 15 кастрычніка 2012 аб працягу дзейнасьці абмежавальных захадаў супраць інтарэсаў рэжыму А. Лукашэнкі, тэрмін якіх выцякае 31 кастрычніка 2013 году», прыняў адмысловую заяву, у якой выказаўся за працяг санкцыяў.

Такую пазыцыю прэзыдыюм Рады тлумачыць тым, што «пануючыя ўлады Рэспублікі Беларусь далей трымаюць за кратамі палітычных вязьняў, не адбылося рэабілітацыі па палітычных прысудах, не праведзеныя свабодныя выбары, не расьсьледаваны зьнікненьні палітычных праціўнікаў А. Лукашэнкі, грамадзтва застаецца ў атмасфэры страху палітычных рэпрэсіяў».

У заяве прыгадваецца, што яшчэ 28 сьнежня 2010 году Рада БНР зьвярнулася да ўрадаў краінаў Эўрапейскага Зьвязу, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Украіны, Турэччыны і Эгіпту з заклікам «забараніць уезд на тэрыторыю гэтых краінаў супрацоўнікам КДБ і іншых спэцслужбаў, сыстэмы міністэрства ўнутраных спраў, судоў і пракуратуры Рэспублікі Беларусь, а таксама членам іх сем'яў. Рада БНР разглядае вышэйназваныя структуры як рэпрэсіўны мэханізм, які скарыстоўваецца супраць актывістаў дэмакратычнай апазыцыі».

Прэзыдыюм Рады БНР заклікаў Раду Эўрапейскага Зьвязу «ўзнавіць дзеяньне абмежавальных захадаў, пералічаных у рашэньні Рады Эўрапейскага Зьвязу 2012/642/CFS, у поўным аб'ёме і без увагі на адмысловыя выключэньні, зробленыя на працягу году», і "першачарговага пашырэньня сьпісу асобаў пад дзеяньнем абмежавальных захадаў коштам таксама тых, чый удзел у рэпрэсіях і іншай дзейнасьці на карысьць захаваньня нелегітымнага кіраваньня А. Лукашэнкі быў задакумэнтаваны ў пэрыяд пасьля падзеяў, зьвязаных з выбарамі 19 сьнежня 2010 году".

*18.10.2013*

## Адзначэньне 25-х угодкаў Беларускага народнага фронту і сьвята Дзядоў у Паўночнай Амэрыцы



*Дзень утварэньня БНФ: Васіль Быкаў адхіляе ад мікрафону супрацоўніка ЦК КПБ (крайні зьлева). І прапануе абраць камітэт па стварэньні Беларускага народнага Фронту.*

Беларускі народны фронт і Дзяды – гэтыя два паняцьці назаўсёды ўвайшлі ў сучасную гісторыю Беларусі цесна ўзаемазьвязанымі. З мэтаю ўшанаваньня памяці продкаў - ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і стварэньне дзеля гэтага грамадзкай арганізацыі "Мартыралёга Беларусі" сабраўся у Менску ў Чырвоным касьцёле сход грамадзкасьці 19 кастрычніка 1988 года. Сход ня толькі выканаў заяўленую задачу, але і зрабіў рашучы крок у будучыню. Гэты дзень стаўся знамянальным і, можна сьмела сказаць, зьмяніў лёс Беларусі. На сходзе быў абраны Арганізацыйны камітэт па стварэньні Беларускага народнага фронту, як шырокага грамадзкага патрыятычнага руху.

Сёлета 25-я ўгодкі БНФ адзначылі ўсе беларусы, якім дарагая нашая Бацькаўшчына, яе будучыня, яе незалежнасьць. Сьвяткаваньне юбілею адбывалася шмат дзе разам са сьвятам Дзядоў. Штогадовае адзначэньне Дзядоў па ініцыятыве Народнага фронту сталася традыцыйнай акцыяй апазыцыі супроць камуністычнага, а цяпер і лукашэнкаўскага рэжыму.

# Імпрэза ў Нью-Ёрку


А. Леанід Акаловіч

Беларусы, якія жывуць у Нью-Ёрку, сьвяткавалі гэтую падзею 3-га лістапада ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага. Сьвяточная заля была упрыгожаная беларускімі нацыянальнымі сымбалямі, таксама дэманстравалася выстава "Беларускаму Народнаму Фронту – 25 год!"

Пачалася імпрэза ўзьнёслым гімнам Народнага Фронта (аўтарства С. Сокалава-Воюша):

*Айчына, сьветлы вобраз твой*
*Нязьменны наш маяк.*
*Хай цемра ладзіць нам канвой,*
*Я добра бачу, як працяг суседняга пляча*
*Жывее ў маім плячы.*
*І людажэрам-крумкачам нас не перамагчы!*
*Фронт, Фронт, Фронт!*
*Ён маё і тваё абуджэньне,*
*Ён народу майго Адраджэньне,*
*Фронт, Фронт, Фронт!*

Для нас, удзельнакаў мінулых вялікіх падзеяў, прыемна было ўспомніць часы, калі мы ўсе змагаліся супраць камунізму за беларускую незалежнасьць; для маладзейшых беларусаў цікава было пачуць і даведацца пра шмат якія факты з нашай найноўшай гісторыі.

Айцец Леванід Акаловіч прачытаў малітву ў памяць адышоўшых змагароў Народнага Фронту – Васіля Быкава, Міхася Дубянецкага, Ігара Герменчука, Галіны Сямдзянавай, Яўгена Куліка і іншых.

Ва ўступным слове старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская падкрэсьліла вялікую ролю Беларускага народнага фронту, які ўзначаліў адраджэнскі рух і дамогся рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці, нягледзячы на велізарныя цяжкасьці. "Роля, якую ўзяў на сябе Народны Фронт, — казала сп. Красоўская, – гэта роля выратаваньня Беларускай нацыі і аднаўленьня Беларускай дзяржаўнасьці. За часы СССР беларускі народ быў культурна прыгнечаны. Народ ня ведаў сваёй сапраўднай гісторыі (пры камуністах гісторыя Беларусі пачыналася з 1917 года), беларуская мова была зьнішчана ў гарадах (дзе пражывала 80 адсоткаў беларусаў), эканоміка была каляніяльнай, амаль палову свайго нацыянальнага прыбытку Беларусь, як даніну, аддавала Маскве, народ Беларусі ў складзе імпэрыі ня быў гаспадаром сваёй зямлі.

Айцец Леванід – удзельнік тых падзеяў – падкрэсьліў значэньне той тактыкі змаганьня, якую выбраў БНФ. Першая яго акцыя "Дзяды" – была важнай у адраджэньні нашай беларускай традыцыі, і сталася вельмі правільнай тактыкай змаганьня: яна не правакавала праліцьцё крыві і насільля (што здарылася ў Тбілісі ды Вільні), а наадварот, была скіравана на тое, каб аб'яднаць народ, сьвяткуючы Дзень задушны.

"Дзяды, – адзначыў айцец Леванід, — гэта наша мінулае і наша будучае. Дзякуючы Народнаму Фронту гэтае сьвята стала ня проста сямейна-родавым сьвятам, а ператварылася ў зьяву больш шырокую, нацыянальную, грамадзкую. Народны Фронт зрабіў Дзяды сакральным сьвятам беларусаў. Гэты дзень стаўся Днём памяці тых, хто загінуў ад НКВД, ад сталінізму, які зьнішчаў лепшых: інтэлігенцыю, працавітых сялян і рабочых, астатніх жа (праз страх) ператвараў у нявольнікаў. Фронт дапамог аднавіць традыцыю і ўваскрасіць памяць пра бязьвінныя ахвяры сталінізму. Дзякуючы адкрыцьцю Курапатаў, паступова сталі вядомыя і іншыя таямніцы сталінізму. Зараз ужо існуе Народны Мэмарыял – Курапаты. Адкрыўшы Курапаты, Зянон Пазьняк, абгрунтавана даказаў, што за саветамі адбываўся генацыд беларускага народа. Гэта ўскалыхнула людзей, абудзіла іх на змаганьне супраць камунізму».




Тацьцяна Красоўская

Перад імпрэзаю пасьля літургіі ў царкве была адслужаная паніхіда ў памяць продкаў.

Ганна Сурмач — удзельніца сходу, на якім быў утвораны Аргкамітэт БНФ, — успамінала пра сакрэтнасьць, у якой ішла падрыхтоўка да сходу 19 кастрычніка 1988 г. (запрашэньне на сход па ўтварэньні Мартыралёга Беларусі ёй прынесьлі літаральна за дзьве гадзіны да пачатку). Сп. Сурмач казала пра ўтварэньне БНФ, як пра падзею агульнанацыянальную, пра значэньне БНФ як агульнанароднага руху.

Сп. Сурмач успомніла таксама першы Устаноўчы зьезд БНФ "Адраджэньне", правесьці які ў Беларусі ўлады не дазволілі і які адбыўся ў Вільні: "Нашыя летувіскія сябры прынялі нас вельмі добра, прадаставілі вялікае памяшканьне для нашага зьезду, і ён прайшоў урачыста. Заля была перапоўнена дэлегатамі і гасьцямі Зьезду. Адчувалася адзінства і агульнае ўзрушэньне. На Беларусь мы вярталіся з узьнёслым настроем, акрыленыя надзеямі".

Прааналізаваўшы сытуацыю ў Беларусі за часы камуністычнага панаваньня і параўнаўшы яе з сытуацыяй у іншых савецкіх рэспубліках, Галіна Пазьняк абмалявала тыя цяжкія ўмовы, у якіх вырастала беларускае Адраджэньне, калі здэнацыяналізаванаму насельніцтву трэба было цярпліва тлумачыць, чаму неабходна адраджаць нашую беларускую мову, чаму неабходна дамагацца незалежнасьці і свабоды. З цікавасьцю аўдыторыя слухала яе ўспаміны пра першыя франтаўскія мітынгі:

"Палымяныя і зьмястоўныя прамовы лідараў Фронту на масавых акцыях, — казала Галіна Пазьняк, — дапамагалі людзям асэнсаваць неабходнасьць барацьбы за незалежнасьць, як адзінае выйсьце і выратаваньне нацыі ад зьнікненьня з мапы гісторыі. І якім бы сёньня ні было цяжкім нашае змаганьне з прамаскоўскім рэжымам Лукашэнкі ў Беларусі, мы мусім працягваць нашую барацьбу, калі нам дарагая нашая Бацькаўшчына".

Гаворачы пра значэньне Беларускага Народнага Фронта ў беларускай гісторыі, выступоўцы адзначылі вялікую ролю Зянона Пазьняка, як кіраўніка арганізацыі, як сапраўднага нацыянальнага лідэра.

Падчас сьвяточнай імпрэзы зачытваліся ўрыўкі з успамінаў Зянона Пазьняка "Курапаты. 10 гадоў пасьля", дэманстраваліся фотаздымкі тых падзеяў і фільм пра візыт прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі Біла Клінтана ў Беларусь у 1994 годзе, пра яго наведваньне Курапатаў.

Атрымалася добрае сьвята. Прысутная моладзь даведалася шмат новага для сябе і пасьля заканчэньня імпрэзы многія задавалі пытаньні, дыскутавалі, выказвалі свае меркаваньні. Гэта сьведчыла пра неабходнасьць адзначаць важнейшыя даты і падзеі нашай гісторыі, каб яны не забываліся і ўздымалі наш дух у нашым змаганьні за лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны.

*Марыля Якушэвіч*

# Імпрэза ў Таронта


Прамаўляе Галіна Сяргеева

3 лістапада 2013 года ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры ў Таронта адбылося сьвяткаваньне Дзядоў. Пасьля Багаслужбы, праведзенай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага пад кіраўніцтвам Першагерарха БАПЦ архіяпіскапа Сьвятаслава, у актавай залі Цэнтру адбыўся сход беларускае грамадзкасьці з нагоды 25-й гадавіны вядомай падзеі 1988 году. З расповядам на тэму "Курапаты - Беларускі Народны Фронт - Незалежнасьць" выступіў сакратар Парафіяльнае Рады Алесь Кот. Прамоўца высьветліў драматызм барацьбы за адкрыцьцё беларускай і сусьветнай грамадзкасьці праўды пра Курапаты, супрацьстаяньне пад час закладаньня БНФ на сходзе ў Чырвоным касьцёле 19 кастрычніка, і асабліва трагізм сітуацыі на Дзяды 30 кастрычніка, калі беларусы ўпершыню ў сваёй найноўшай гісторыі ў супрацьстаяньні з прамаскоўскай камуністычнай сыстэмай атрымалі маральна-псіхалягічную перамогу. Была падкрэсьлена асаблівая роля Васіля Быкава і Зянона Пазьняка ў распачынаньні народнага руху за Адраджэньне і Незалежнасьць Беларусі. Таксама узгадана пра наведваньне Курапатаў у 1994 годзе прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам і ягонай сустрэчы са Старшынём БНФ Зянонам Пазьняком, пра абарону Народнага Мемарыялу сябрамі КХП-БНФ сёньня.

Гісторык Галіна Сяргеева ў сваім выступе засяродзілася на выніках і гістарычным значэньні дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", на палітычных дасягненьнях першай рэальнай апазыцыі той таталітарнай сыстэме ўлады, што панавала ў Беларусі і працягвае сваё панаваньне й па сёньняшні дзень, зьмяніўшыся ў формуаднаасобнае дыктатуры.

Удзельнікам сходу былі прадэманстраваны некаторыя дакумэнты тых часоў, прэзэнтаваны шэраг кніг выдавецтва "Беларускія Ведамасьці", Варшава - Нью-Ёрк - Вільня. Кожны прысутны атрымаў копію артыкула Зянона Пазьняка і Аўгена Шмыгалёва "Курапаты - дарога сьмерці".

*Алесь Кот*


Прамаўляе Алесь Кот

# Напісанае застаецца: прэзэнтацыя новай кнігі Янкі Запрудніка



Кожны адукаваны чалавек ведае лацінскі выраз "Verba volant, scripta manent" (Словы зьлятаюць, напісанае застаецца). І як жа добра ён пасаваў да імпрэзы, якая адбылася 15 верасьня ў Беларуска-амэрыканскім грамадзка-культурным цэнтры ў Саўт Рывэры! Блізка сотні людзей рознага веку сабраліся на прэзэнтацыю кніжкі Янкі Запрудніка "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью-Джэрзі" (Jan Zaprudnik. Belarusian Festivals & Exhibitions in New Jersey). Значная частка гэтых людзей – удзельнікі падзеяў, апісаных у кнізе.

Прэзэнтацыя пачалася грунтоўным і эмацыйным выступам доктара Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Зь юначых год сябра й паплечнік аўтара, Янкі Запрудніка, прамоўца выдатна разумеў і належна ацаніў зробленае. Ён сказаў: "У гэтай залі на маёй памяці адбыліся мо з тысячу самых розных акадэміяў ды сустрэчаў. Аднак за апошнія 25 гадоў я магу прыгадаць прэзэнтацыі ў ёй толькі дзьвюх кніг: зборніка вершаў "Міжагнёўе" Міхася Кавыля ды твораў заснавальніка тутэйшай парафіі а. Мікалая Лапіцкага. Сёньня – трэцяя падзея ў гэтым шэрагу. Чаму так рэдка адбываюцца такія падзеі? Адказ просты: кнігу напісаць цяжка. Гэта даўгі інтэлектуальны працэс, немалыя фізычныя высілкі ды значныя фінансавыя кошты. Аднак кніга застаецца самым важным дакумантам людзкой дзейнасьці. За 50 гадоў працы ў ньюёрскай Публічнай бібліятэцы я пераканаўся, што любая кніга патрэбна ўвесь час. А пагатоў беларуская кніга, бо мы іх маем яшчэ мала".

Кніга Янкі Запрудніка распавядае пра беларусаў Амэрыкі, якія з канца 1940-х гадоў жылі ў штатах Нью-Джэрзі, Нью-Ёрк і іншых ды бралі актыўны ўдзел у грамадзка-культурным жыцьці: ладзілі выставы традыцыйных беларускіх народных вырабаў ды выяўленчага мастацтва, выступалі з паказамі народнага адзеньня, удзельнічалі ў розных канцэртах ды фэстывалях. Засталіся тысячы здымкаў, газэтныя рэпартажы, праграмкі ды афішы, якія далі магчымасьць аўтару ўзнавіць панараму тых падзеяў. Успаміны асобных актывістаў дадалі "фарбаў" ягонаму аповеду.

Кніга напісаная ў дзьвюх мовах – беларускай і ангельскай, пры гэтым кожны тэкставы варыянт – арыгінал, а не пераклад, хоць у аснове адзін і той самы матэрыял. Янка Запруднік, працуючы над рукапісам, арыентаваўся як бы на дзьве чытацкія аўдыторыі/плыні – беларускамоўных паваенных эмігрантаў ды іх амэрыканскіх унукаў. Каб апошнія маглі лепш зразумець сваіх продкаў, ім трэба патлумачыць некаторыя грамадзка-палітычныя сытуацыі... Выданьне багата ілюстраванае пераважна каляровымі здымкамі, вельмі густоўна й прафэсійна аформлена.

Вернемся, аднак, да прэзэнтацыі. Спадар Кіпель адзначыў: "Аўтар сабраў сваёй задумай сотні асобаў і паказаў у кнізе, пра што яны думалі, што рабілі; чым жылі суродзічы, пачынаючы ад сярэдзіны мінулага стагодзьдзя. А жылі яны ня толькі надзённымі патрэбамі, але й Беларусьсю. Выяўлялі яны сваю Беларусь праз песні, традыцыйнае мастацтва, народныя танцы. Яны сьпявалі й для сябе, і навонкі. Яны рэпрэзэнтавалі перад усім сьветам Беларусь, якую трымалі ў душы. Кніга Янкі Запрудніка – выдатны дакумант беларускай дзейнасьці ў Амэрыцы".

У сваім слове спадар Запруднік выказаў падзяку ўсім, хто прыбыў на прэзэнтацыю, якую, ён зазначыў, трэба разглядаць як заключны фэстываль і выстаўку. Што да вытокаў кнігі, дык яны ляжаць у самаахвярнай рэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці цягам дзесяцігодзьдзяў вялікай колькасьці ўдзельнікаў фэстываляў і выставак ды ў багатым архіўным матэрыяле, які сабрала ягоная жонка Надзя. Нельга было дапусьціць, каб такі скарб зьнік без належнага замацаваньня яго ў кнізе. Асаблівая заслуга ў шыкоўным выглядзе публікацыі, заявіў аўтар, належыць мастачцы Ірэне Дутко й ейнаму мужу кампутаршчыку Мікалаю Дутко: "Гэта іхны мастацкі твор".

Далей выступоўца зазначыў: "Перахоўваньне айчыннай спадчыны ляжыць глыбока ў трады-

Працяг на 4-й бачыне

# Напісанае застаецца: прэзэнтацыя новай кнігі Янкі Запрудніка

*Працяг з 3-й бачыны*

цыі Амэрыкі. З гледзішча культуры амэрыканскае грамадзтва становіць сабой сплаў этнічных і расавых элемэнтаў з усіх канцоў сьвету. У духу свабоды, закладзенай у аснову Злучаных Штатаў, амэрыканская дэмакратыя дае магчымасьць кожнай этнічнай групе захоўваць сваю спадчыну й перадаваць яе нашчадкам. Гэтая гуманістычная свабода гарантуе амэрыканскай нацыі палітычную стабільнасьць і дынамічную культуру. Хачу падкрэсьліць, што перахоўваньне этнічных традыцыяў узбагачае культурную панараму чалавецтва. Культурная разнастайнасьць не выпадковая, яна адлюстроўвае разнастайнасьць фізычнага сьвету".

Прэзэнтацыя новай кнігі была жывой і карыснай. Скажам, выступ бібліятэкара Джыма Нісэна зь весткамі пра беларускія кніжныя й архіўныя зборы ў бібліятэцы Ратгерскага ўнівэрсытэту, якія прамоўца запрасіў узбагачаць далейшымі ўкладамі й ахвяраваньнямі, можна лічыць вельмі надзённай часткай імпрэзы. Сярод прысутных былі таксама прафэсар Томас і сп-ня Мэры-Лін Бэрд ды архівіст з Ратгерскага ўнівэрсытэту Тым Корліс.

Прыемнай нечаканасьцю для прысутных сталася прадстаўленая сп. Янкам Запруднікам "Ода кнігам беларускім", напісаная ім спэцыяльна для сябра – Вітаўта Кіпеля. Таму зацытуем яе тут.

### Ода кнігам беларускім

*Вітаўту Кіпелю,*
*дарагому сябру,*
*энтузіясту й мэцэнату кніжнае справы*

*Кніжныя гусі-лебедзі*
*ў прарыўным палёце*
*да затуманенай Бацькаўшчыны.*
*Крылатыя пасланцы гарачых сэрцаў,*
*працятых болем па Айчыне.*
*Галасы прыглушанай праўды.*
*Рэха расстрэльнай зброі*
*і малітвы за пакутнікаў.*
*Носьбіты веры ў васкрашальную сілу слова.*
*Эстафэта й лучво пакаленьняў.*
*Маўклівыя абаронцы мовы прашчураў.*

Так і просіцца сюды хвіліна цішыні й роздуму. Гэта можна было сабе дазволіць, разглядаючы прыгожа зробленую Ірэнай Дутко невялікую выстаўку: фатаграфіі, плякаты ды розныя інфармацыйныя матэрыялы тых адметных фэстывальных часоў. Варта адзначыць і арыгінальнае ўбранства залі, у якой праходзіла прэзэнтацыя. Аздобленая яна была традыцыйнымі беларускімі тканымі вырабамі (пераважна ручнікамі) са збору Надзі Запруднік.

Вядома, былі розныя пачастункі-прысмакі, старанна прыгатаваныя спадарыняй Надзяй Навумчык. І як падарунак усім ды вяртаньне ў фэстывальна-музычную атмасфэру, якую ўзнаўляе прэзэнтаваная кніга, гучалі песьні ў выкананьні Таццяны й Валянціна Дзямешчыкаў.

Рэпартэр мог бы паставіць кропку... Але я хачу дадаць яшчэ некалькі словаў для тых, хто будзе чытаць гэтую публікацыю ў Беларусі ці, агулам, на постсавецкай прасторы. Беларусы ў Амэрыцы (найбольш актыўна ды масава ў 1970-ыя–1980-ыя гады) ладзілі ўсе гэтыя выстаўкі ды езьдзілі на фэстывалі й канцэрты выключна сваім коштам, ня маючы ніякай адміністрацыйнай і фінансавай падтрымкі збоку. (На Бацькаўшчыне іх увогуле не прызнавалі.) Рэпэтыцыі ды выступы ладзіліся выключна ў вольны ад асноўнай працы час. У іх былі вельмі моцныя канкурэнты – і больш заможныя этнічныя групы, і большыя колькасна, і больш вядомыя ў сьвеце. Але – беларусы дасягалі свайго. Яны заваёўвалі сымпатыі як амэрыканскіх палітыкаў, так і звычайных гледачоў. Бо ідэйна былі моцныя, ахвярныя, мелі высокую мэту: паставіць Беларусь на карту сьвету, паказаць, што беларусы вартыя той свабоды, за якую яны змагаюцца.

Цяпер ёсьць на карце сьвету Рэспубліка Беларусь. А ці ж яна беларуская – шануе мову й нацыянальную культуру? Ці людзі, якія там жывуць, свабодныя? Хто з нас думае пра гэта ды хоць штосьці робіць? І ці будзе пра што пісаць станоўча праз 50 гадоў?

*Валянціна Трыгубовіч.*

*P.S. Спадар Віктар Дудараў зрабіў відэаздымкі прэзэнтацыі кнігі, а спадар Алег Гардзіенка паставіў іх на сайце "Нашай Нівы". Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, арганізатар прэзэнтацыі, выказвае ім шчырую падзяку. А разам зь імі дзякуе ўсім, хто спрычыніўся сваім удзелам ці працай да гэтай імпрэзы.*

# Угодкі Натальлі Арсеньневай



У Нью-Ёрку, у грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай аўтакефальнай царквы ў Брукліне, 20 верасьня 2013 году прайшла імпрэза, прысьвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэньня пісьменьніцы і грамадзкай дзеячкі Натальлі Арсеньневай.

З успамінамі пра Натальлю Арсеньневу выступаў сп. Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва.

Пра жыцьцёвы шлях паэткі распавёў а. Леванід Акаловіч.

*Таццяна Красоўская*

# У Канадзе аднавілі беларускі памятны Крыж




28 верасьня 2013 году беларусы Канады сабраліся ў сакральным месцы — Прошчы Пакутнікаў (Martyrs' Shrine) каля антарыйскага гораду Мідлэнд, каб устанавіць аднаўлены Беларускі Эўфрасіньнеўскі Крыж.

Крыж быў упершыню пастаўлены ў гэтым традыцыйным месцы паломніцтва прадстаўнікамі беларускай дыяспары з усяго сьвету ў 1988 годзе ў памяць 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. Арганізатарамі і галоўнымі фундатарамі гэтага праекту былі Вінцук і Раіса Жук-Грышкевічы.

У гэтым годзе Крыж давялося дэмантаваць, бо за дваццаць пяць гадоў драўніна, зь якой ён быў зроблены, спарахнела дарэшты. Дзякуючы ахвяраваньням беларускай грамады Канады, Амэрыкі й Беларусі і працы рук Юркі Шаўчэнкі, на сьвята Узьвіжаньня паўстаў новы чатырохмэтровы Крыж. Пад час урачыстай службы Крыж асьвяціў Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Сьвятаслаў. Напрыканцы службы прысутныя з вялікім натхненьнем прасьпявалі гімн «Магутны Божа».

*Галоўная управа ЗБК*



# Ліст да родзічаў. Пасьля адведзін

Дарагія нашы!

Тая наймілейшая краіна, дзе завязана пупавіна. Няма большага духовага задавальненьня, як адведкі родных на роднай зямлі. Мы з Надзяй удзячныя Богу, што нам пасьля чатырохгадовага перапынку пашчасьціла пабачыцца з вамі, пабыць у розных мясьцінах Беларусі, пажыць успамінамі, пацешыць вочы незабыўнымі краявідамі, але адначасова з болем у сэрцы пераканацца ў адыходзе з практычнага ўжытку таго, што нам найдаражэйшае, – роднай мілагучнай мовы.

Дарога назад у Амэрыку была камфартабельнай. Польская авіялінія абнаўляе цяпер свой флёт, і з Варшавы ў Нью-Ёрк мы ляцелі новым Бэінгам-787. Гэта той, у якога на пачатку году сёлета былі ўсё нейкія праблемы з батарэямі. Нарэшце наладзілі. Бэінг- 787 - гэта велічэзная прасторная махіна. На борце 400 пасажыраў. Выгодныя сядзеньні, індывідуальныя тэлеэкраны з багатым выбарам праграмаў, добрая яда (да выбару дзьве стравы, розныя напоі, уключна зь віном і гарэлкай). Словам, ад старту да фінішу ўсё наша ліпеньска-жнівеньскае падарожжа – 10 дзён у Польшчы зь Беластокам і 20 у Беларусі – прайшло гладка, прыемна й памятна. Хочацца верыць, што сустрэча наша была не апошняй...

Цяпер тут знаёмыя пытаюцца: "Ну, як там у Беларусі?" Пытаньне ёмістае. Можа, й вам будзе цікава пачуць наш адказ.

Мушу сказаць, што за мінулыя чатыры гады зьмены ў вас відавочныя. Значна пашырыўся й мадэрнізаваўся менскі аэрапорт (зь ім мы пазнаёміліся пры адлёце): значна пашырэла электроннае таблё з новымі рэйсамі, больш кіёскаў з сувэнірамі, крамаў з замежнымі бутэлькамі алькаголю й парфумэрыі, перакусачная, банкаўскае вакно ды іншае.

Пабольшала аўтастрадаў. Новыя, чыстыя, з гладкімі палосамі траўнікаў паабапал. Далейшая хада дарожнага будаўніцтва навідавоку. Прыбыло будаўнічай тэхнікі. Галоўнае, чаго не стае - гэта аўтамабільнай і турыстычнай абслугі. Дзясяткі кілямэтраў без рэстаранчыка, без заправачнай станцыі, бязь месца адпачынку. Па-ранейшаму скупыя, або блытаныя, або зусім адсутныя на бакавых дарогах паказнікі кірунку.

У Менску адразу ж кідаюцца на вочы гмахі новых жылых кварталаў. Гарадзкія ўлады ўжо нават робяць захады, каб прыпыніць крыху будаўнічы бум.

На вуліцах сталіцы пабольшала аўтамабіляў з павышанай доляй навейшых. Амаль у кожнага пешахода пры вуху мабільнік. Людзі выглядаюць крыху лепш апранутымі. І ўсе па-ранейшаму з авоськамі або мешкаватымі чыноўніцкімі партфэлямі.

Мадэрнізацыйныя зьмены заўважаюцца і ў правінцыі. Зьявіліся кватэрныя туалеты там, дзе іх яшчэ нядаўна не было, душы зь цёплай вадой, машыны да мыцьця бялізны. Мы былі прыемна зьдзіўленыя, пабачыўшы ў раённых Жыткавічах гіпэрмаркет (па-нашаму - супэрмаркет). Вялікі выбар прадуктаў, хуткая абслуга. У суседнім Тураве пабудаваны італьянскі завод малочных прадуктаў; тут жа побач і навенькая крама з малочнымі й мяснымі вырабамі. Праўда, калі гаварыць пра заробкі й цэны, то ружовы колер зьнікае. Вочы бачаць, а кішэня не дазваляе. Сямейныя бюджэты трашчаць. Уздоўж дарогаў (падобна як і на Беласточчыне) сёй-той залатвае бюджэтныя дзіркі продажам "дароў" лесу. Але ж такіх прадаўцоў зьнікомая колькасьць. Лес далёка ня ўсім даступны. Дый транспарт каштуе. Шмат якія гараджане займаюцца "нелегальным вулічным гандлем" (тэрмін менскай адміністрацыі), змагацца зь якім улады заклікалі нядаўна міліцыю ды падатковую інспэкцыю.

Як вынік сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі й росту жыцьцёвага ўзроўню часткі насельніцтва, растуць і цэны. А рост цэнаў даймае якраз найбяднейшых. Жанчына ў харчовай краме: "А што ж гэта такое?! Учора батончык быў пяць тысячаў, а сёньня ўжо сем! Вось табе й падвысілі пэнсіі..." Адна рука дае, другая забірае.

Часткава прыватызаваная камэрцыя закідала рынак замежнымі таварамі, асабліва галянтарэйнага кшталту (крэмы, туалетныя прылады, біжутэрыя й г.д.). Паправілася тэхналёгія апрацоўкі й абсталяваньня кватэраў. Замежныя тавары нагэтулькі пераважаюць сваімі якасьцямі, што ўрад мае праблему з гандлёвым дэфіцытам: валюта ўцякае за мяжу. Урад змагаецца з гэтымі ўцёкамі рознымі спосабамі, у тым ліку этыкеткамі ў крамах: "Зроблена ў Беларусі". Беларусы, будзьце патрыётамі!

За мяжу ўцякае ня толькі валюта, а й маладыя людзі ў пошуку нармальных бытавых умоваў. Наяўны прыклад: настаўнік-пачатковец зь месячнай зарплатай 175 даляраў шукае кватэры ў Менску й давядваецца, што найтаньнейшая аднапакаёўка будзе каштаваць яму 200 даляраў. Вось і ўладкуй свой быт, калі ня маеш дапамогі ад бацькоў зь дзядамі.

Густой заслонай над беларускай зямлёй павісла расейская мова й русіфікаванае маўленьне. Дэнацыяналізацыйныя ўплывы дабраліся ўжо да фанэтыкі, да цьвёрдых і фрыкатыўных гукаў беларускай мовы. У моўна зьнявечаным Менску засталіся адно бледныя сьляды нацыянальнага моўнага скарбу - на некаторых шыльдах, на вулічных табліцах, дзяржаўных будынках ды ў гарадзкім мэтро, дзе яшчэ лашчыць слых прыемны мужчынскі барытон: "Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя Купалаўская". Пры ўсім гэтым варажнечы да нашай беларускай мовы, якою мы ўсюды карысталіся, мы не адчулі. Папулярнасьць расейскае мовы, апрача ўсяго іншага, падтрымліваецца фактам, што Расея застаецца, як сказаў адзін суразмовец (які займаецца вырабам мэблі), "бяздонным рынкам збыту тавараў". Рынкавая мова – мова бытавых патрэбаў, штодзённай практыкі, мова масаў. А мова нацыянальнай спадчыны, калі яе актыўна не падтрымлівае ўрад і мясцовыя ўлады, застаецца аб'ектам абароны з боку лічаных адзінак і малалікіх групаў грамадзянаў. Трэба падкрэсьліць, што такая абарона паступова пашыраецца ў выніку канкрэтных практычных абарончых мерапрыёмстваў, як гэта робіць Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) пад старшынствам сп. Алега Трусава або Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" пад старшынствам сп-ні Алены Макоўскай. Абаронцы беларушчыны апіраюцца на заканадаўства ці проста праводзяць мерапрыёмствы, што не пярэчаць законам. Падобныя захады даюць пазытыўныя вынікі, як нам было сказана. З псыхалягічнага боку такая тактыка вельмі карысная, бо яна дае, хоць і малыя, але наяўныя вынікі, якія трымаюць абаронцаў на духу.

Ня выключана, што акцыя маламаштабнай абароны мовы ўзьдзейнае на зьмяншэньне беларусафобіі. Ня трэба таксама выключаць з аналізу й магчымага пашырэньня ў грамадзтве разуменьня беларускай гістарычна культурнай анамаліі -- існаваньне тытульнай дзяржаўнасьці бяз тытульнай мовы.

Несамавітым, аднак, застаецца яшчэ сярод многіх беларусаў інтэлектуальны вывіх у паглядзе на нацыянальную мову. І на самой рэчы: з далёкіх вякоў як і зь нядаўных дзесяцігодзьдзяў гучаць ва ўнісон галасы найвыдатнейшых постацяў айчыннай гісторыі, што родная мова Богам дадзеная. Пра гэта казалі й кажуць Францішак Скарына, Леў Сапега, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Рыгор Барадулін ды мноства іхных сучасьнікаў. Але мазгі ў нашых людзей нагэтулькі затуманеныя русіфікацыяй (або паланізацыяй), што нават тыя, хто глыбока верацы у Бога, не разумеюць свайго першароднага грэху, калі яны здаюць на пагібель Божы дар, родную мову.

На гэтым пакуль што спынімся. Паспрабуем праседзець празь сіта развагі ўсё бачанае й чытае. Ды будзем жыць далей думкамі й мроямі пра родную Беларусь.

Самэрсэт, кастрычнік 2013

*Янка Запруднік*

# Беларускі роварны рэйд у Маямі



З беларускім акцэнтам прайшоў у Маямі ў ЗША роварны рэйд з нагоды Хэлоўіна. Беларускія ўдзельнікі прабегу ехалі з бел-чырвона-белымі сьцягамі ды музыкай.

Беларусы Паўдзённай Флярыды, сябры Гуртка БАЗА, далучылася да амэрыканскай грамады, якая кожную пятніцу месяца ладзіць там такія акцыі.Трэба было прыцягнуць увагу. Ідэя палягала на тым, каб у час рэйду са сцягамі і пад беларускую музыку (мы былі з магнітафонамі) як мага больш распаўсюдзіць інфармацыі. Людзі пыталіся: «А што гэта за сцягі, чыя гэта музыка?» Вядома, што большасць людзей у Маямі з Лацінскай Амэрыкі, для якіх Беларусь – дзівосная краіна, таму ім цікава, што гэта за краіна і дзе яна знаходзіцца. Шмат людзей спынілася каля нас.

Сваёй акцыяй амэрыканскія беларусы выказалі таксама салідарнасьць з пакаранымі за ўдзел у роварным прабегу стылягамі, які адбыўся ў Менску ў жніўні.

*Паліна Прысмакова*
*26.10.2013*

# Мастак Лявон Тарасэвіч стаў ляўрэатам Прэміі імя Цыпрыяна Норвіда

Лявон Тарасэвіч стаў ляўрэатам Прэміі імя Цыпрыяна Норвіда ў намінацыі "Выяўленчае мастацтва". Статуэтку і чэк на 20 тысячаў злотых вядомы мастак, прадстаўнік беларускай супольнасці ў Польшчы, атрымаў у час урачыстасці ў Каралеўскім замку ў Варшаве.

Узнагарода прысуджаная за выставу ў галерэі "Spokojna", а таксама ў адкрытай галерэі ў Доме Палоніі ў Варшаве. Лявон Тарасэвіч выстаўляецца як у По-льшчы, так і за мяжой. У сваёй творчасьці ён часта выкарыстоўвае публічную прастору, ствараючы мастацкія інсталяцыі вялікіх памераў. Уручэньне Прэміі Норвіда адбылося ў 192-ую гадавіну з дня нараджэння клясыка польскай літаратуры.

*Паводле Радыё Рацыя*

# Памінаньне спачылых



Нядзельная служба ў царкве Жыровіцкай іконы Божае Маці ў Гайлэнд-парку 3 лістапада была шматлюднай. Да сталых прыхаджанаў далучыліся беларусы-вернікі зь Нью-Ёрку, чые родныя й блізкія спачываюць на могільніку ў Іст-Брансўіку. Зьмітраўская памінальная субота спалучылася з ушанаваньнем Сабору навамучанікаў і вызнаўцаў зямлі Беларускай.

Пасьля літургіі была адпраўлена паніхіда па ўсіх спачылых прыхаджанах, па родных і блізкіх прысутных людзей. Шмат беларусаў пахавана ў розных кутках сьвету. Ня ўсе яны апынуліся ў чужых краях па ўласнай волі. Цяпер пра гэта можна адкрыта гаварыць і ў самой Беларусі. Хоць да поўнага нацыянальнага паразуменьня яшчэ далекавата.

Памінальныя малітвы працягваліся на магілках, якія належаць Царкве Жыровіцкае іконы Божае Маці, у Іст-Брансўіку. Пачаў іх айцец Зіновій ля помніка "Тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь". Потым сьвятар, хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапяжынскага, старшыня царкоўнай рады Віктар Дубяга ды родзічы, сваякі й сябры пахаваных прайшлі па ўсіх сьцежках ужо даволі абшырнага беларускага могільніку, сьпяваючы адпаведныя малітвы ды не пакінуўшы ні аднаго помніка без акрапленьня сьвятой вадой.

Цудоўны сонечны дзень спрыяў сьветлым успамінам пра тых, за каго маліліся прысутныя, нясьпешным роздумам пра сэнс чалавечага жыцьця. Годнае ўшанаваньне папярэднікаў – справа высакародная й вельмі чалавечная. Прыемна, што гэта неад'емная частка традыцыйнай народнай культуры беларусаў.

*На здымках: на могілках царквы Жыровіцкай іконы Божае Маці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы 3 лістапада 2013 года.*

*Тэкст і фота Валянціны Трыгубовіч.*

# Да гісторыі беларускай прысутнасьці ў Севастопалі. Гібель лінейнага карабля "Наварасійск"

*Сп. Валер Барташ, старшыня Севастапальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча «Пагоня» працягвае адкрываць трагічныя старонкі гісторыі савецкага часу, да якіх маюць дачыненьне і беларусы.*

У ноч на 29 кастрычніка 1955 году ў дамах Севастопаля загойдаліся абажуры, зазывінеў посуд. Раніцаю я, вучань 4 клясы «А», ішоў у школу, калі да мяне падбег знаёмы хлопчык і крыкнуў: «Наварасійск» узарваўся!"

Лінейны карабель "Наварасійск", флагман Чарнаморскага флоту, быў атрыманы Савецкім Саюзам у 1949 годзе па рэпарацыях ад пераморжанай Італіі і раней называўся "Джулiё Чэзарэ" - "Юлій Цэзар". Яшчэ ўчора гэты агромісты карабель (даўжыня 186 м), які ўражваў гледачоў, велічна ўваходзіў у бухту.

Школа наша знаходзілася на ўзвышшы, у перапынку вучні ўсіх клясаў выйшлі ў двор, і нам было добра бачна, што на другім канцы бухты ўзвышалася днішча перакуленага карабля ў акружэньні буксіраў і выратавальных суднаў. Моўчкі мы глядзелі на гэта незвычайнае відовішча і разумелі, што ўнутры карабля яшчэ знаходзяцца маракі, якія не мелі магчымасьці выбрацца зь яго нядраў і стукамі адтуль дарма клікалі на дапамогу. У крамешнай цемнаце адсекаў карабля маракі паміралі ў пакутах. Праз пяць дзён вадалазы ўжо перасталі чуць стукі і крыкі. З карабля даставалі трупы, мёртвыя чалавечыя целы ўсплывалі на паверхню ў бухце. Мы, дасьціпныя севастопальскія хлапчукі, бачылі на пристані склад незвычайна вялікіх чырвоных трунаў. На старым Брацкім могільніку быў выкапаны вялізны катлаван – брацкая магіла загінулым маракам "Наварасійска".

Дома я чытаў розныя савецкія газэты, але там пісалася толькі пра воінаў – выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі, пра посьпехі будаўніцтва сацыялізму і ніводнага слова пра трагедыю "Наварасійска". 7 лістапада, як звычайна, у горадзе адбыўся сьвяточны парад і салют. Але немагчыма было гэтым прыхаваць праўду пра катастрофу лінкора. Севастопаль гудзеў ад гора, скрухі, чутак... Хавалі загінулых на досьвітку, нікога не папярэдзіўшы. Прычыны і абставіны гібелі карабля былі прааналізаваны адмысловай камісіяй і захоўваліся ў сакрэце. Згодна з савецкімі этычнымі канонамі пра трагедыю было загадана забыць!

Праўда, была прынята сакрэтная пастанова пра аказаньне дапамогі сем'ям загіблых і пра ўшанаваньне памяці маракоў-"наварасійцаў". З бронзы аднаго з вінтоў лінкора адлілі постаць



Матроса з нахіленым сьцягам і шапкаю-бесказыркаю ў руках, у абрамленьні фігуры - эпізоды барацьбы за выратаваньне лінкора. Аднак брацкая магіла так і заставалася безымяннаю.

І толькі праз 33 гады, калі пачаліся дэмакратычныя перамены, зьявіліся публікацыі, а потым і кнігі пра гэтую буйнейшую катастрофу баявога карабля ў мірны час. Быў нарэшце апублікаваны і даклад той камісіі, якая дасьледавала прычыны катастрофы. З яго вынікала, што карабель загінуў па прычыне ўзрыву нямецкай міны, што засталася пасьля вайны. Але найбольш цікавымі ў гэтым дакладзе былі вывады, што наступствы ўзрыва не былі б такімі трагічнымі, калі б камандаваньне зрабіла ўсе патрэбныя захады па выратаваньню людзей. Злачынная халатнасьць, прафэсійная нядзольнасьць, недаацэнка першачарговай каштоўнасьці чалавечага жыцьця шматкроць павысілі ўзровень разбуральных наступстваў узрыва.

Грамадзкасьці сталі вядомымі ўсе імёны 611 загінуўшых маракоў. Сярод іх ёсьць і беларусы, згадаем іх паіменна, бо невядома, ці гэтыя сьпіс быў абнародаваны ў Беларусі: Савіцкі Уладзімір, матрос, Магілёўская вобл., Круглянскі р-н, в. Елькаўшчына - мой зямляк. На жаль, яго імя адсутнічае ў кнізе " Памяць" Круглянскага р-на, што і стала адной з прычынаў напісаньня гэтага артыкулу; Бондар Андрэй, матрос, Гомельская вобл. Лельчыцкі р-н, в.Глушковічы; Бруяк Леанід, матрос, Гомельская вобл. Акцябрскі р-н, в.Смолаўка; Будгарс Уладзімір, матрос, Гомельская вобл., Талаўскі р-н, в.Знаменск; Вараноўч Казімір, матрос, Менская вобл., Маладзечанскі р-н, ст.Отмяны, саўгас "Победа"; Зінавенка Міхаіл, матрос, Гомельская вобл., былы.Васілевіцкі р-н, в.Глінная Слабада; Карпенка Аляксандр, старшыня 2-й стацыі, г. Бабруйск; Карабейка Міхаіл, старшына 2-ой стацыі, Менская вобл., саўгас Дзяржынскі. Кудравец Мікалай, ст. матрос, Брэсцкая вобл., в.Млынок; Ліпкус Самуіл, матрос, г.Гомель; Лукашэнка Браніслаў, матрос, г.Чэрыкаў Магілёўскай вобл.; Палонін Уладзімір, матрос, Менская вобл., Барысаўскі р-н, д.Селішча; Пруднікаў Аляксандр, матрос, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Прудок; Рамановіч Мікалай, старшына 2 стацыі, Менская вобл., Уздзенскі р-н. в.Прысынак; Рабцаў Іван, матрос, Магілеўская вобл. Слаўгарадзкі р-н, в.Рогі; Санюкевіч Міхаіл, матрос, Гродзенская вобл., Шчучынскі р-н, в.Скрыбаўцы; Семячко Леанід, матрос, Гомельская вобл., пас.Петрыкаў; Страчунскі Рафаіл, лейтэнант, г.Мсціслаў Магілёўскай вобл.; Стрэльчанка Уладзімір, матрос, Гомельская вобл., в.Рудка; Сулімскі Андрэй, ст.матрос, Гомельская вобл., Мазырскі р-н, в.Майсееўка; Сытнік Рыгор, матрос, Гомельская вобл., Мазырскі р-н., в.Хомічкі; Трацьцякоў Яўген, старшына 2 стацыі, г.Менск; Фралоў Канстанцін, матрос, Віцебская вобл., былы Багушэўскі р-н, в.Целякі; Халаеў Сьцяпан, матрос, Гомельская вобл., Чачэрскі р-н, в.Мотневічы; Чаркун Іван, матрос, Брэсцкая вобл., Ганцавіцкі р-н.; Шчарбюк Іван, матрос, Брэсцкая вобл., Маларыцкі р-н, в.Гвозьніца; Юркевіч Васіль, ст.матрос, Гомельская вобл., Жыткавіцкі р-н, в. Карма; Жаўлакоў Аляксандр, ст. матрос, Магілеўская вобл. Кіраўскі р-н, в. Стайкі; Байдак Леанід, старшына 1 стацыі, Гомельская вобл., г. Лоеў; Ерастаў Барыс, ст. матрос, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Мішчукова. Усяго па няпоўных зьвестках - 29 чалавек, бальшыня 1935 году нараджэньня. Дзецьмі яны выжылі пад час вайны і трагічна загінулі ў мірны час.

Матросы "Наварасійска" - героі і ахвяры трагедыі. Камандуючы флотам і яго штаб – героі крывавага фарсу. Краіна тады яшчэ не прачнулася ад сталінізму. Жорсткі дух праваўдыра лунаў над караблём і флотам, уладарыў у розумах камандзіраў, навязваў вобраз думкі і стыль кіраўніцтва. У гісторыі «Наварасійска» адлюстравалася ўся згубная сутнасьць дыктатарства, сталінізму. Стала вядома таксама, што Сталіна папярэджвалі пра тое, што ня варта браць карабель па рэпарацыях, бо ён быў ужо безнадзейна састарэлы, а таксама мог быць і замініраваны. Дарэчы, камісія не выключала наўмыснага ўзрыву карабля. Але дыктатар любіў вялікія караблі.

# У Вільні створана арганізацыя беларусаў-прафэсіяналаў.




31 жніўня 2013 года ў сэрцы горада Вільні - Віленскай ратушы адбылося заснаваньне некамэрцыйнай, непалітычнай арганізацыі Глабальныя Беларускія Лідэры.

Сустрэча ГБЛ стала мерапрыемствам, накіраваным на пабудову даверу і кантактаў паміж прадстаўнікамі беларускага бізнэсу, навукі і спорту.

Галоўным матывам сустрэчы было аб'яднаньне пасьпяховых беларускіх прафэсіяналаў па ўсім сьвеце ў адзіную сетку з мэтай усталяваньня прафэсійных кантактаў. Наступнымі крокамі павінны стаць стварэньне праграмы ўзаемадапамогі, якая будзе ўмацоўваць кантакты паміж прафэсіяналамі розных галін і правядзеньне мясцовых сустрэчаў арганізацыі ў розных краінах.

Падрыхтоўка да мерапрыемства цягнулася амаль год, за які арганізатары мерапрыемства пазнаёміліся з дзясяткамі пасьпяховых лідэраў, якія паходзяць зь Беларусі або зьвязаны зь Беларусьсю сваёй прафэсійнай дзейнасьцю.

На пачатку жніўня 2013, працоўная група па стварэньню арганізацыі мела сьпіс з прыблізна 40 удзельнікаў – прафэсіяналаў, якія былі прадстаўлены спартоўцамі, бізнэсоўцамі, навукоўцамі, дзеячамі культуры, прадстаўнікамі сфэры інфармацыйных тэхналогій, турызму. Напрыклад, з Амэрыкі прыляцела адвакат Алеся Кіпель, з Канады прыехаў вядомы канадыйскі прафэсар Дэвід Марплз, які дасьледуе Беларусь, Літву прадстаўляў кіраўнік кампаніі па вытворчасьці прыбораў для вымярэньня ўзроўню радыяцыйнага забруджваньня і інш.

Сустрэча складалася зь дзьвюх частак. Першая частка - абмеркаваньне структуры, мэтаў і будучай дзейнасьці арганізацыі Глабальныя Беларускія Лідэры. Другая частка - фармальнае заснаваньне арганізацыі. Першая частка сустрэчы праходзіла ў галоўным корпусе Эўрапейскага гуманітарнага унівэрсытэта, які на некалькі гадзінаў стаўся цэнтрам беларускага “брэйнстормінгу”. Па выніках першай часткі сустрэчы былі акрэсьлены мэты арганізацыі, яе структура, заплянаваныя сустрэчы мясцовых аддзелаў ГБЛ.

Другая частка сустрэчы адбылася ў Віленскай ратушы. Прасторная заля ратушы была цалкам запоўненая гасьцямі і непасрэднымі ўдзельнікамі сустрэчы. Сярод гасьцей прысутнічалі прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу Літвы, грамадзкія дзеячы і журналісты.

Падчас відэапрэзэнтацыі і наступных выступаў арганізатары праекту ГБЛ распавялі пра яго ўдзельнікам і гасьцям, адказалі на пытаньні прысутных.

З нараджэньнем арганізацыю павіншавалі амбасадар Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус, арганізатар Глабальных Літоўскіх Лідараў Далія Петківічыене, беларускі літаратар Валерыя Кустава. Прывітальныя словы таксама даслалі амбасадары ЗША, Канады і краінаў Эўропы.

Кульмінацыйным момантам сустрэчы стала падпісанне Статуту аб стварэньні арганізацыі. Пасля падпісаньня Статута госьці і ўдзельнікі працягнулі камунікацыю ў нефармальнай атмасфэры.

Кожны з нас павінен разумець, што чым болей сярод беларусаў будзе пасьпяховых, самадастатковых прафэсіяналаў, якія цьвёрда стаяць на нагах, тым лепш будзе для Беларусі.

З дадатковай інфармацыяй можна азнаёміцца на сайце арганізацыі http://belarusianleaders.org

*Мікола Цімашэнка*

# Верасень ў Таварыстве беларускай культуры Літвы

*Ляцяць у вырай жураўлі і гусі,*
*Дубовы ліст у жылках і ў расе,*
*Мне нагадаў абрысы Беларусі.*

*Яго мая кранаецца рука,*
*А ён нібыта выкананы з броні,*
*І жылка кожнага дубовага лістка*
*Зьлілася з жылкамі маёй далоні.*

Гэтыя радкі Сяргея Грахоўскага, 100-гадовы юбілей якога прыпадае ў гэтым годзе, могуць быць эпіграфам да сустрэчы, якая адбылася, як заўсёды, у ТБК у апошнюю суботу месяца. Размова ішла пра мінулае і сучасьнасьць. Гэтым разам рэдактар беларускай радыёпраграмы на Літоўскім радыё Андрусь Старавойтаў расказаў пра выпадак у Польшчы (падмацаваўшы аповед відэапаказам), калі артысты, якія мелі прадстаўляць Беларусь, з запалам сьпявалі "Калінку - малінку" ды гралі іншую музыку суседняй дзяржавы. Ім і ў галаву не прыходзіла, што кожны народ мае сваю музыку і свае песьні. Што ж, так званы прэзыдэнт Беларусі ўсе гады свайго кіраваньня імкнуўся да гэтай мэты - выструціць з народнай свядомасьці ўсё нацыянальнае.

Алесь Адамковіч, як заўсёды, зьмястоўна расказаў пра постаці ксяндзоў Яна Матусевіча і Міколы Гайдука. Іх ужо няма з намі, але іх досьвед натхняе многіх наступнікаў.

Спадар Адамковіч прачытаў таксама верш Натальлі Арсеньневай.

Адбылася і прыемная нечаканасьць - у госьці завіталі былыя дэпутаты Вярхоўнай Рады Беларусі сп. Зянон Пазьняк, сп. Юрась Беленькі, сп.Сяргей Папкоў і гісторык сп. Аляксандр Краўцэвіч. Гутарка пайшла пра гісторыю, пра становішча Беларусі ва ўмовах унутранай акупацыі, пра лёс мовы і культуры.

Шкада толькі, што прысутных было гэтым разам мала. На завяршэньне сустрэчы малады святар айцец Даніла асьвяціў сядзібу ТБК.

*В.а. старшыні ТБК Крыстына Балаховіч, Вільня*

# Міжнародная Амністыя (Amnesty International) патрабуе вызваленьня Ігара Пастнова

У Беларусі за рэзкую крытыку сыстэмы аховы здароўя Віцебска затрымалі лекара Ігара Пастнова. Яго падвергнулі прымусоваму лячэньню ў той жа медыцынскай установе, дзе ён працаваў. Amnesty International заклікае сваіх прыхільнікаў дамагацца вызваленьня лекара.

Ігар Пастноў - псыхіятар зь Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі - цягам часу неаднаразова крытыкаваў на YouTube палітыку ўрада і гарадзкую сыстэму аховы здароўя. У сваіх выступах ён закранаў такія вострыя тэмы, як медыцынскія памылкі і нямэтавае выдаткаваньне грашовых сродкаў. У чэрвені 2013-га Ігар Пастноў раскрытыкаваў дзеяньні міліцыі па прымусовай шпіталізацыі бяздомных і валацугаў з мэтай псыхіятрычнага нагляду.

З-за крытычных выказваньняў паміж Ігарам Пастновым і кіраўніцтвам паўстаў сур'ёзны канфлікт. 16 жніўня псыхіятрычная камісія клінічнага цэнтра, у якім працаваў Пастноў, вырашыла, што лекару патрабуецца прымусовае псыхіятрычнае лячэньне ў сувязі з "псыхапатыяй з маніяй перасьледу". У той дзень Ігар Пастноў патэлефанаваў журналісту Радыё "Свабода", каб расказаць пра сваё затрыманьне, але размову перапынілі. 21 жніўня Віцебскі раённы суд у межах закрытага пасяджэньня пастанавіў падвергнуць Ігара Пастнова прымусоваму лячэньню ў Віцебскім абласным клінічным цэнтры псыхіятрыі і наркалёгіі. Пастанова суда абвяшчала, што Ігару Пастнову патрабуецца прымусовае псыхіятрычнае лячэньне ў сувязі з "хранічным вар'яцкім засмучэньнем", якое ўяўляе небясьпеку для яго самога і навакольных. У судовай пастанове не раскрывалася, якую небясьпеку ўяўляе Ігар Пастноў для грамадзтва, згадваліся толькі яго выступы ў сетцы Інтэрнэт.

Беларуская дзяржава павінна абараняць свабоду выказваньня меркаваньняў і садзейнічаць актыўнаму абмеркаваньню дзейнасьці грамадзкіх дзеячаў і дзяржаўных установаў. Amnesty International занепакоеная тым, што Ігара Пастнова маглі затрымаць у адвольным парадку за законную крытыку сістэмы аховы здароўя Віцебскай вобласьці. У Беларусі сыстэматычна парушаецца права на свабоду выказваньня меркаваньняў, а крытыкаў уладаў падвяргаюць перасьледу.

*Вячаслаў Бортнік, спэцыяліст па Беларусі Міжнароднай Амністыі ЗША (Amnesty International)*

# Закон “Аб беларусах замежжа”: адзін крок да прыняцьця

Доўгачаканы праект закону “Аб беларусах замежжа” паступіў у Палату прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, гэта не першы раз, калі праект гэтага закону пасля ўзгадненьня паміж усімі зацікаўленымі дзяржаўнымі ўстановамі фактычна дайшоў да апошняй стадыі разгляду. Такое ўжо было ў 2002 годзе. Тады праект закону меў назву “Аб суайчыньніках, якія пражываюць за мяжой”, але з незразумелых прычынаў прыняцьце закону так і не адбылося, і ён надоўга выпаў з прыярытэтаў дзяржаўнай замежнай палітыкі.

Неабходнасьць прыняцьця закону Згуртаваньне беларусаў свету “Бацькаўшчына” агучвала даўно: з 2001 года пытаньне было асноўным у парадку дня працы з'ездаў беларусаў сьвету, што склікаюцца “Бацькаўшчынай” кожныя чатыры гады. Больш за тое, на з'ездах не толькі прымаліся звароты да Ураду з заклікам прыняць адпаведны закон, дэлегаты выходзілі з канкрэтнымі прапановамі, датычнымі зьместу закону. Практычна гатовы законапраект быў накіраваны Згуртаваннем ва Урад па выніках і Чацвёртага (2005 г.), і Пятага (2009 г.) з'ездаў беларусаў сьвету. Гэты дакумент быў складзены з улікам меркаваньня дыяспары, а таксама падобнага заканадаўства іншых унітарных краінаў. “Бацькаўшчына” прапанавала назваць законапраект “Аб беларусах замежжа”.

У канцы 2009 года пры Нацыянальным цэнтры заканадаўства і прававых дасьледаваньняў Рэспублікі Беларусь зноў была створаная працоўная група па распрацоўцы законапраекта, у яе ўвайшлі прадстаўнікі дзяржаўных устаноў Беларусі і грамадзкіх арганізацый, што працуюць з беларускай дыяспарай, у тым ліку і “Бацькаўшчыны”. У выніку быў распрацаваны законапраект, які ўсё ж атрымаў назву “Аб беларусах замежжа”. Некалькі год ён вандраваў па розных дзяржаўных установах дзеля ўзгадненьня, і, адпаведна, зьмяняўся яго зьмест.

Апошнім часам над канчатковым варыянтам законапраекта перад падачай у Палату прадстаўнікоў працавала Міністэрства замежных спраў Беларусі, больш за тое, у выпадку прыняцьця закону асноўная нагрузка па яго выкананьні будзе класьціся менавіта на гэтую дзяржаўную ўстанову. У сувязі з гэтым Згуртаваньне “Бацькаўшчына” звярнулася да начальніка галоўнага ўпраўлення шматбаковай дыпламатыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Амбразевіча Юрыя Георгіевіча па каментар адносна законапраекта і яго далейшага лёсу. Падаем некаторыя з пытаньняў да яго ад прадстаўніка Інфармацыйнага цэнтру «Бацькаўшчыны» і ягоныя адказы.

*Наколькі можна быць упэўненымі, што гэтым разам закон “Аб беларусах замежжа” ўсё ж будзе прыняты?*

Праца над законапраектам сапраўды ішла не адзін год. Некаторыя дзяржаўныя ўстановы не адразу пагадзіліся з яго мэтазгоднасцю. Пасля значны час спатрэбіўся для таго, каб прыйсці да адзінага разумення ўсімі ўдзельнікамі працэсу паняццяў і прынцыпаў, якія закладваюцца ў гэты прававы акт. У выніку прадстаўлены Урадам у Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь законапраект з'яўляецца досыць кампрамісным. Аднак галоўнае — гэта агульнае разуменне патрэбнасці закону як для дзяржавы, так і для тых, каму ён адрасаваны, — для беларусаў, якія пражываюць за мяжой. І менавіта гэта дазваляе спадзявацца, што прыняцце закону адбудзецца ў найбліжэйшай перспектыве. На дадзеным этапе Урад выканаў усё, што ад яго залежыць, — вызначыўся з адзіным падыходам, скарыстаў свае права заканадаўчай ініцыятывы. Цяпер працэс знаходзіцца ў руках парламентарыяў. Праект дакумента ўжо разгледжаны на пасяджэнні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якая падтрымала законапраект і рэкамендавала яго да разгляду ў першым чытанні.

*Вы згадалі пра тое, што ўнесены ў Парламент законапраект — гэта кампраміс. Не маглі б вы дэталёва пракаментаваць сутнасць дасягнутага ва Урадзе ўзаемапаразумення па дакуменце? У чым заключалася розніца ў падыходах да тэмы адносінаў дзяржавы і беларусаў замежжа?*

Пачну з таго, што пад час распрацоўкі закону ў МЗС і ў іншых дзяржаўных установах спрабавалі адказаць на пытанне, якую пазіцыю дзяржава павінна займаць на сучасным этапе ў адносінах да замежных грамадзян: этнічных беларусаў або прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якія з'яўляюцца выхадцамі з Беларусі ці іх нашчадкамі. Ужо потым паўстала пытанне, ці патрэбны гэты закон і якім ён павінен быць.

Відавочна, што Беларусь, як і любая дзяржава, зацікаўленая ў тым, каб развіваць адносіны з людзьмі, якія любяць сваю гістарычную радзіму, яе культуру, вызнаюць сябе беларусамі. Гэта спрыяе пазітыўнаму іміджу краіны ў свеце, станоўча ўплывае на ўнутранае развіццё дзяржавы і грамадства. Нашы суайчыннікі за мяжой валодаюць сур'ёзным палітычным, эканамічным, культурным патэнцыялам. Нельга казаць, што да пачатку працы над законам гэтага ў Беларусі не разумелі. Гэта не так. Дзяржава актыўна супрацоўнічала, падтрымлівала і працягвае супрацоўнічаць і падтрымліваць многіх беларусаў за мяжой. І МЗС, і Мінкульт, і Мінінфарм, і Апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў самым непасрэдным чынам працуюць з беларускімі арганізацыямі ва ўсіх суседніх краінах і многіх іншых дзяржавах свету, дзе існуе арганізаваная беларуская дыяспара, уключаючы нават далёкую Аргенціну.

Усведамленьне таго, што дзяржаўнай працы з беларусамі за мяжой не хапае скаардынаванасьці і мэтанакіраванасьці і што ўзаемадзеянне з імі магло б больш актыўна спрыяць захаваньню беларускай прысутнасьці ў замежжы, вызначыла неабходнасьць аднаўленьня сістэмнага падыходу да вырашэньня гэтых задач.

Дыскусія, чым і як павінен быць вызначаны гэты падыход, тычылася аб'ёму тых абавязкаў, якія дзяржава была гатовая і здольная прыняць на сябе ў дачыненьні да працы з беларусамі замежжа. Нам добра вядомыя чаканьні многіх замежных суайчыннікаў ад беларускай дзяржавы: бясплатныя візы, бясплатнае медыцынскае абслугоўванне і наогул бясплатная адукацыя. Гэта не поўны, але яскравы прыклад, які кажа сам за сябе. Маючы гэта на ўвазе, прадстаўнікі шэрагу дзяржаўных устаноў, на мой погляд, цалкам справядліва падымалі пытаньне аб тым, чаму беларускі бюджэт павінен ствараць для замежнікаў, нават беларусаў па крыві, якія не заплацілі ў бюджэт ні капейкі падаткаў, умовы, аналагічныя беларускім грамадзянам, якія нясуць асноўны цяжар па стварэньні сацыяльнай сферы нашай дзяржавы. Асобныя галасы нават прапаноўвалі простую формулу: “Хай плацяць падаткі ў беларускую казну і атрымліваюць і бясплатныя візы, і ўсё астатняе...” Узнікалі і іншыя пытаньні. Напрыклад, “ва ўсім свеце вядома, што робіць армянская дыяспара для Рэспублікі Арменія, а што зрабілі выхадцы з Беларусі для сваёй радзімы?”

Тым не менш, важную ролю ў тым, што было прынятае рашэньне ўсё ж спыніцца на неабходнасьці закону, адыграла адзінае разуменьне таго, што тэма дыяспары і супрацоўніцтва з ёй, безумоўна, з'яўляецца важным палітычным фактарам. Таму ўнесены ў Парламент праект — гэта дакумент, перш за ўсё, палітычны і праграмны, закліканы закласці сістэму, якую можна будзе развіваць у будучыні ў залежнасьці ад магчымасьцяў і інтарэсаў дзяржавы. Гэта свайго роду палітычны сігнал як сістэме дзяржаўнага кіраваньня, так і беларусам замежжа. Усім вядома, што прававое рэгуляванне грамадскіх адносін шляхам прыняцьця спецыяльнага закону ажыццяўляецца ў нашай краіне толькі ў выпадку, калі дзяржава разглядае гэтыя адносіны як безумоўна важныя.

*На Шостым з'ездзе беларусаў свету, які ў ліпені гэтага года зладзіла Згуртаванне “Бацькаўшчына”, паўставаў шэраг пытанняў, звязаных з законапраектам. Удзельнікі з'езду лічаць важнай задачай заканадаўчае замацаванне статусу “беларус замежжа”. Хто такі беларус замежжа: той, хто прызнае сябе такім, той, хто мае тут карані, той, хто размаўляе па-беларуску і падтрымлівае беларускую культуру і г.д.? Ці не маглі б Вы акрэсліць, які прынцып будзе пакладзены ў аснову гэтага вызначэння ў законе “Аб беларусах замежжа”: культурны, этнічны ці дзяржаўны, як гэта ёсць у тым варыянце законапраекта, што пайшоў у Палату прадстаўнікоў? Якія асноўныя правы для замежных беларусаў ён прадугледжвае?*

Законапраект прапануе вызначыць паняцце беларусаў замежжа. У першым артыкуле беларусы замежжа вызначаюцца як «этнічныя беларусы, выхадцы з Рэспублікі Беларусь, і асобы, якія ідэнтыфікуюць сябе як беларусы, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь».

Больш дэталёва гэтае паняцце раскрываецца ў законе наступным чынам:

1. грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь;
2. замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і самі або іх продкі па прамой узыходнай лініі нарадзіліся або пражывалі на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь;
3. замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць за межамі Рэспублікі Беларусь і ідэнтыфікуюць сябе як беларусы з пункту гледжання этнічнай прыналежнасьці да беларускага народу або мовы, культуры, гістарычных сувязей, веданьня і захаваньня беларускіх традыцый і звычаяў.

Прызнанне сваёй прыналежнасьці да беларусаў замежжа ў адпаведнасьці з абзацамі другім і трэцім, што я акрэсліў, з'яўляецца актам іх самаідэнтыфікацыі, падмацаваным грамадзкай або прафесійнай дзейнасьцю па захаваньні беларускай мовы, развіцьці беларускай культуры за мяжой, умацаваньні сяброўскіх адносін дзяржаў грамадзянскай прыналежнасьці або сталага месца жыхарства беларусаў замежжа з Рэспублікай Беларусь і іншымі пацверджаньнямі добраахвотнага выбару на карысьць духоўнай і культурнай сувязі з беларускай дзяржавай.

У канцэпцыі, якую падтрымлівае МЗС, выключаныя ўсе магчымыя размежаваньні, у тым ліку і па этнічнай прыналежнасьці. Яшчэ раз пад-

крэслю, беларус ты ці не — гэта пытаньне самаідэнтыфікацыі. Галоўнае, каб чалавек сапраўды адчуваў сябе такім, дэманстраваў сваю зацікаўленасьць да нашай краіны практычнымі дзеяньнямі, пацьвярджаў свой добраахвотны выбар на карысьць беларускай культуры, развіцьця канструктыўных стасункаў з беларускай дзяржавай.

Гаворка пра тое, каб гэтым асобам, якія дэфакта і дэ-юрэ з'яўляюцца замежнымі грамадзянамі, даць нейкія спецыяльныя правы, на дадзеным этапе не ідзе. У законе, аднак, закладзеныя нормы, якія могуць быць выкарыстаныя для гэтых мэтаў у будучыні.

Ваша пытанне аб статусе беларуса замежжа прымушае мяне ў сваю чаргу спытаць Вас як прадстаўніка грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвае беларусаў замежжа, якая адстойвае іх інтарэсы, — а якія абавязкі вы бачыце для гэтай катэгорыі асоб у дачыненьні да іх гістарычнай радзімы?

Хачу коратка адказаць на яго сам з пункту гледжаньня чаканьняў дзяржавы. Не буду ўтойваць, што мы хацелі б бачыць з боку беларусаў замежжа значна большую актыўнасьць у рэалізацыі сумесных праектаў, у тым ліку інвестыцыйных, якія ўносяць значны ўклад у развіцьцё сучаснай Беларусі. Магчыма, што дзейсны вынік такіх сумесных праектаў дазволіць дзяржаве зьмяніць свае падыходы да статусу беларусаў замежжа.

*Мяркуецца, што закон будзе насіць рамачны характар. Ці будзе весціся праца над падзаконнымі актамі, якія б мелі непасрэднае ўздзеянне? Магчыма, ужо ёсць канкрэтнае бачанне, што гэта будуць за прававыя дакументы, на што яны будуць накіраваныя?*

Упэўнены, што абсалютная большасць беларусаў замежжа пазітыўна ацэніць факт прыняцця закону, нават калі ён будзе і не ў поўнай меры адказваць на ўсе іх практычныя пытанні. Закон у любым выпадку стане вялікім крокам наперад, які дэманструе, што дзяржава не адварочваецца ад суайчыннікаў за мяжой, а, наадварот, працягвае руку ўсім тым, хто зацікаўлены ў сумесным збліжэнні, сумеснай працы на канструктыўнай аснове. Для Беларусі гэты закон — першы досвед, які трэба развіваць.

Немагчыма ў закон, які прымаецца на доўгія гады, унесці ўсё тое, што цяпер з'яўляецца вельмі актуальным, а праз год або два можа страціць сэнс. Таму гэты закон будзе падмуркам для далейшага будаўніцтва адносін паміж Беларуссю і беларусамі замежжа.

Гэты закон вызначае катэгорыі асоб, якія адносяцца да беларусаў замежжа, устанаўлівае мэты, прынцыпы дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь у галіне стасункаў з беларусамі замежжа, а таксама віды і формы дзяржаўнай падтрымкі, што аказваецца беларусам замежжа ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

Дакумент павінен выбудаваць дакладную нацыянальную сістэму ўстаноў, адказных за ўзаемадзеянне з суайчыннікамі за мяжой, удакладніць іх кампетэнцыю, механізмы ўзаемасувязяў і каардынацыі. Менавіта гэты сэнс мы ўкладаем, калі гаворым пра рамачны характар законапраекта...

*Яшчэ адна з праблемаў, якія хвалявалі гасцей і дэлегатаў з'езду, — гэта праблема наведваньняў Радзімы. Многія адзначалі, што атрымаць візу часта бывае праблематычна, ды і нятанна, а калі візу і выдаюць, то гэты працэс бывае складаным і працэдурна, і псіхалагічна. І патрабаванні да беларусаў замежжа нічым не адрозніваюцца ад патрабаванняў да іншых замежнікаў. Як Вы лічыце, прыняцьце закону спросьціць гэтую працэдуру для беларусаў замежжа? Ці гэта задача падзаконных актаў?*

Праблема, якую вы акрэслілі, датычыцца толькі нашых суайчыннікаў, якія пражываюць не на прасторы СНД і не ў краінах, з якімі ў нас ужо існуе дамоўленасьць аб бязвізавым перамяшчэньні пры наяўнасьці сапраўднага пашпарта або іншага дакумента, прадугледжанага нацыянальным заканадаўствам замежнай дзяржавы.

Хачу адзначыць, што дзейны ў цяперашні час парадак атрымання беларускіх віз максімальна спрошчаны. Для афармлення візы тэрмінам знаходжання да 30 дзён патрабуецца толькі заплаціць консульскі збор, запоўніць візавую анкету і падаць яе разам з пашпартам у дыпламатычнае прадстаўніцтва або консульскую ўстанову Рэспублікі Беларусь за мяжой. Асабістая падача дакументаў таксама не абавязкова, іх можна перадаць па пошце, праз візавыя агенцтвы або з пасыльным.

Для адкрыцьця візы на больш працяглы тэрмін патрабуецца дакументальнае пацверджаньне неабходнасьці знаходжаньня ў Беларусі (запрашэнне фізічнай асобы, хадайніцтва юрыдычнай асобы і г.д.). Але і ў гэтым выпадку атрымаць беларускую візу нашмат прасцей, чым беларусу шэнгенскую або амерыканскую.

Вы кажаце , што беларуская віза каштуе дорага. Хачу зазначыць, што кошт беларускай візы павінен пакрываць выдаткі па забеспячэньні дзейнасьці нашых замежных устаноў, што ўключае арэнду офісаў, функцыянаваньне спецыяльнай інфармацыйнай сістэмы і іншае.

Скаргі на высокі кошт беларускіх візаў, асабліва для грамадзян багатых заходніх краінаў, выглядаюць некалькі дзіўна на фоне таго, што для грамадзян ЗША, якія едуць у Беларусь, і грамадзян Беларусі, якія накіроўваюцца ў ЗША, кошт простай аднаразовай візы аднолькавы. Ідэнтычная сітуацыя і ў дачыненьні да грамадзян дзяржаў Эўразьвязу. Больш за тое, заканадаўствам прадугледжаная магчымасьць адмены платы за візу па рашэньні кіраўніка беларускага пасольства або консульства, у тым ліку з гуманітарных меркаваньняў.

Што датычыцца складанасьцяў працэдуры, намі створаныя камфортныя ўмовы для атрымання поўнай інфармацыі аб патрабаваньнях да выдачы беларускай візы, якая размяшчаецца ў інтэрнэце на мове краіны знаходжаньня консульскай установы. Вусныя кансультацыі можна заўсёды атрымаць наўпрост, патэлефанаваўшы ў нашу консульскую службу ў пэўнай краіне або ў МЗС Беларусі.

Не хацелася б палемізаваць з вамі пра псіхалагічныя цяжкасьці, якія ўзнікаюць пры атрыманьні беларускай візы замежнікамі. Адзначу толькі, што не пазайздрошчу таму беларускаму консулу, у дачыненьні да якога замежны грамадзянін напіша афіцыйную скаргу на нейкія неадэкватныя дзеяньні. Да гонару МЗС у адрас нашых консульскіх супрацоўнікаў штогод прыходзіць шмат падзяк, у той час як скаргаў — адзінкі. Улічваючы ўсё гэта, праект закону не прадугледжвае нормаў прамога дзеяньня, што датычыцца парадку перасячэньня дзяржаўнай мяжы. Аднак, магчымасьць рэалізацыі такога падыходу не выключаецца ў прынцыпе.

*Дэлегаты Шостага з'езду закранулі таксама праблему вяртаньня беларусаў на гістарычную Радзіму. Было адзначана, што многія з іх хочуць вярнуцца ў Беларусь, а некаторыя нават хочуць выступіць у якасці інвестараў, атрымаўшы беларускае грамадзянства. Для гэтага патрэбная максімальна спрошчаная працэдура атрыманьня беларускага грамадзянства, а таксама "стартавая" падтрымка для такіх асобаў. Скажыце, ці прадугледжвае адказы на гэтыя пытаньні законапраект?*

У рамках дзейнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь для нашых суайчыньнікаў існуе рэальная магчымасьць вяртання на гістарычную Радзіму, у тым ліку і ў якасьці інвестараў.

Так, у адпаведнасці з артыкулам 53 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь" дазвол на пастаяннае пражываньне выдаецца замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія:

1. "з'яўляюцца этнічнымі беларусамі або іх кроўнымі сваякамі па прамой сыходнай лініі: дзецьмі, унукамі, праўнукамі, якія нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь";

2. "з'яўляюцца інвестарамі, якія ўклалі інвестыцыі ў памеры не менш як сто пяцьдзесят тысяч еўра ў аб'екты інвестыцыйнай дзейнасьці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым для ажыцьцяўлення інвестыцыйнай дзейнасьці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь атрыманне беларускага грамадзянства не патрабуецца".

Што тычыцца магчымасьці атрымання этнічнымі беларусамі беларускага грамадзянства ў спрошчаным парадку, то Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" такая магчымасьць ужо прадугледжаная.

*Не сакрэт, што многія беларусы замежжа маюць 2 пашпарты, пры гэтым падвойнае грамадзянства не прызнаецца Беларуссю. Ці не маглі б Вы акрэсліць, як дзяржава ставіцца да наяўнасьці гэтых 2 пашпартоў? І ці адлюстраванае гэта неяк у законапраекце?*

Адказ на гэта "складанае" пытаньне ўжо прадугледжаны беларускім заканадаўствам. У адпаведнасці з артыкулам 11 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" за асобай, якая з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, не прызнаецца прыналежнасьць да грамадзянства замежнай дзяржавы. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць таксама іншае грамадзянства, не могуць на гэтай падставе быць абмежаваныя ў правах, вызваляцца ад адказнасьці ці ўхіляцца ад выкананьня абавязкаў, што вынікаюць з грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Кажучы прасцей, асоба, якая мае, напрыклад, у дадатак да беларускага грамадзянства яшчэ і канадскае ці бразільскае, павінна ўязджаць, выязджаць і знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь выключна па беларускім пашпарце.

*Паводле Інфармацыйнага цэнту МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

PS: 22 лістапада з Беларусі прыйшла вестка, што Закон ужо прыняты ў першым чытаньні

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) паведамляюць**

31- я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца 30-31 жніўня 2014 году ў горадзе Нью-Ёрку.

Праграма Сустрэчы, кантактная інфармацыя будуць паведамлены ў наступных нумарах газэты.

# І жыве Беларусь на чужыне!




29 кастрычніка споўнілася

90 гадоў

Вользе Грыцук - адной з актыўных дзячак беларускага руху ў Канадзе.
Спадарыня Вольга была замужам за Аляксеем Грыцуком выбітнай асобай беларускай дыяспары у Канадзе, гісторыкам, літаратуразнаўцам, настаўнікам старшынём Згуртаваньня беларусаў Канады.
Сама Вольга Грыцук была адной з заснавальніц Згуртаваньня беларускіх жанчын Канады і ўзначальвала гэтую арганізацыю на працягу 18 гадоў
Цяпер спадарыня Вольга жыве ў Кінгстане.

Дарагая спадарыня Вольга!

Ад усяго сэрца віншуем Вас з слаўным юбілеем! Шчыра дзякуем Вам за Вашую нястомную шматгадовую працу, якая падтрымлівала і падтрымлівае як беларускую дыяспару ў Канадзе, так і суайчыньнікаў на Радзіме! Вашае жыцьцё служыць выдатным прыкладам для моладзі, узорам самаадданай і бескарысьлівай любові да Бацькаўшчыны, роднай мовы і культуры. Зычым Вам здароўя, бадзёрасьці і сілы духу на доўгія-доўгія гады!

Многая лета!

Галоўная ўправа Згуртаваньня беларусаў Канады.

Спадарыня Вольга Грыцук больш як паўвека жыве ў канадзкім горадзе Кінгстан. А нарадзілася каля старажытнага беларускага горада Дзісна. І я нарадзіўся недалёка ад Дзісны ў 1942 годзе. Вольга, дачка Васіля Дуброўскага, назаўсёды пакінула руіны згарэлага ад бамбёжак дома ў 1944 годзе. Праз 60 гадоў пасьля тых падзей пачалася наша перапіска і прадаўжаецца да гэтага часу. Лагоднай, чулай, зычлівай суайчыньніцы прысвячаў вершы, дбаю, каб і на яе радзіме захаваліся добрыя згадкі пра зямлячку. Мы аднадумцы ў галоўным – у любові і павазе да свайго айчыннага мацерыка.

Невымерны патрыятызм Вольгі - гэтай прыўкраснай галінкі на радаводным дрэве Дуброўскіх – натхняе чытача яе кнігі "Мы ствaралі сваю Беларусь (Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука)". Гэты зборнік выдадзены ў Мінску ў 2007 годзе. Такім чынам была ўзноўлена памяць аб адным зь лідараў пасьляваеннай эміграцыі ў Канадзе Аляксею-Алесю Грыцуку (1910—1976)—таленавітым і мужным сыне беларускага народа, які пакінуў у памяці сучаснікаў, як пісала ў артыкуле "Ад укладальніцы" Вольга Іпатава, моцны духоўны імпульс.

Сваім уступным словам "Дзякуючы ім жыла Беларусь на чужыне" далучылася да гэтага выданьня і Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР.

Чытачы кнігі пазнаёміліся з багатай творчай спадчынай Аляксея Грыцука – мужа спадарыні Вольгі. А пісьменьніца Вольга Іпатава правяла літаратурную апрацоўку і творчых набыткаў самой Вольгі Васільеўны - пра Паўліну Мядзёлку, уладыку Мікалая з Таронта…

Чытаю радкі маёй зямлячкі з аповеда "Маё жыцьцё да сустрэчы з Алесем": "Мая радзіма – Дзісеншчына. І дасюль, як заплюшчу вочы, бачу свой родны дом, над якім узыходзіць сонейка, росныя ранкі, прыгожую беларускую прыроду. Усё гэта застаецца з чалавекам навечна, і я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю родную мову, на ўсё тое, што робіць чалавека чалавекам".

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала актыўнай дзячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з арганізатараў Згуртаваньня беларускіх жанчын Канады. У 1975-м абрана старшынёй ЗБЖ і ўзначальвала Згуртаваньне да 1993 года. Узгадваю, як я быў расчулены кароткім аповедам спадарыні Вольгі пра дзяўчынку Лену, якая была "…жывой кветачкай з роднай Беларусі". І ня толькі Лену ратавала ад чарнобыльскіх хваробаў Вольга Грыцук і салідарныя зь ёю жанчыны Канады.

І зноў невялікая цытата з назвай кнігі Вольгі Грыцук: "Тут, у Канадзе, мы адбудавалі сваю Беларусь, мы стварылі яе наўзамен той, якую страцілі і аб якой заўсёды марылі. Як маглі, стараліся працаваць дзеля яе…"

Пісьмы зь Беларусі Вольгі Грыцук на маю паэтычную Беларусь, у прыдзвінскае незабытае юнацтва станавіліся цытатамі ў маіх вершах. І за гэта пасылаю вялікую падзяку ў Канаду.

Сёлета спадарыня Вольга ўжо адзначыла адну незабыўную падзею – 55-годзьдзе яе шлюбу з Аляксеем-Алесем, якому яна аддала ўсю сваю любоў і ласку. А юбілей поўні жыцця канадзкай беларускі-крывічанкі – лагодная магчымасьць падзякаваць ёй за велічнасьць духу, ахвярнасьць, узбагачэньне меданоснага нацыянальнага вулея, перадаць "гаспадыні, сьлічнай пані" пажаданьне з нашай прыдзьвінскай велічальнай песьні: "У тваім дамку – як у райку! Няхай так будзе!"

### І зьдзейсьніцца Дзісна!

*"Мая радзіма - Дзісеншчына... І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю родную мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам".*

*Вольга Грыцук з дому Дуброўскіх*

*Жыла ў Дзісьне з Дуброўскімі,*
*Ластоўскімі,*
*Тут чула Жаўняровіча псалмы...*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі,*
*ні войскамі*
*Ня зьмецена: тут Адзігітрыя і мы.*

*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*Схіляюца чупрыны курганоў.*
*І сёньня ёй, Васільеўне,*
*прыўкраснага*
*Тут вельмі многа для*
*паромаў-сноў.*

*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,*
*Муры, капліцу помніла дзяўчо...*
*...Пранесьліся нягоды - ураганамі*
*І пад спадзеў падстаўлена плячо.*

*Каханейка пякучае ня стоміцца*
*Зьбіраць сьляды дзяцінства*
*ля Дзьвіны...*

*Ёй зьдзейсьніцца Дзісна! Вярба*
*памоліцца,*
*Каб наша суайчыньніца-патомніца*
*Прыйшла на фэст пад*
*родныя званы.*

*Сяргей Панізьнік*

# Кнігі, ахвяраваныя грамадзтву

Архіў-бібліятэка Фундацыі Крэчэўскага ў Нью-Ёрку ў кастрычніку папоўнілася кнігамі са збору Уладзімера Пелясы (1918 – 2004). Яны ахвяраваныя беларускай грамадзе ягонай прыёмнай дачкой Марыяй Стэлз (Stelz).

У шматгадовым зборы Уладзіміра Пелясы ёсьць кнігі на беларускай, польскай, ангельскай, расейскай, украінскай мовах. Тут – мастацкая літаратура й беларусаведа розных гадоў, рэлігійныя выданьні й гістарычныя дасьледаваньні, самыя розныя слоўнікі ды падручнікі.

Паходзіў Уладзімер Пеляса зь Лідшыны, скончыў Віленскую беларускую гімназію, у часе Другой сусьветнай вайны працаваў у Самапомачы. Пакінуў Бацькаўшчыну перад прыходам савецкіх войскаў. У лягерох ДП, шукаючы занятку ды заробку, заняўся гандлем – і меў посьпех як кнігапрадавец. У Амэрыцы атрымаў добрую працу ў адной буйной фірме, але свае кніжныя справы не пакінуў: стварыў беларускае выдавецтва ды працягваў пашыраць беларускамоўную літаратуру. На жаль, гэты бізнэс выявіўся стратным і неўзабаве яго давялося спыніць. Але ў прыватнай бібліятэцы зьберагліся кнігі з аўтографамі Міхася Кавыля, Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца ды іншых аўтараў, якім ён дапамог "выйсьці да чытача" ў далёкія ўжо 1950-я гады.

У грамадзкім эміграцыйным жыцьці Уладзімір Пеляса быў заўсёды надзейны й адказны. Шмат гадоў аддаў Амэрыканска-беларускай праваслаўнай царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (раён Нью-Ёрка), быў сяродстваральнікаў адпачынкавага цэнтру "Белэр". І працягваў купляць ды чытаць беларускія кніжкі, выдадзеныя ў эміграцыі, у БССР, у Рэспубліцы Беларусь… Цяпер яны будуць даступныя, у першую чаргу, дасьледнікам гісторыі паваеннай беларускай эміграцыі.

Дырэкцыя Фундацыі Крэчэўскага выказвае падзяку ўсім, хто спрычыніўся да гэтай высакароднай акцыі: Марыі Стэлз, дачцы Уладзімера Пелясы, Ганьне Мярляк і Ларысе Клінцэвіч, прыхаджанкам Амэрыканска-беларускай царквы сьв. Кірылы Тураўскага, Але Кузьміцкай, грамадзкай актывістцы, Але Орса-Рамана й Валерыю Дворніку, сябрам Рады дырэктароў Фундацыі Крэчэўскага.

*Валянціна Трыгубовіч.*

## 100-годзьдзе сп-ні Элеаноры Кіркевіч

Сябры спадарыні Элеаноры Кіркевіч, якая жыве ў горадзе Саўт-Рывэр, штат Нью-Джэрзі, адзначылі 26 кастрычніка ейныя 100-я ўгодкі жыцьця ўрачыстым абедам з кветкамі, падарункамі й віншаваньнямі.

Сп-ня Кіркевіч прыбыла ў Амэрыку з мужам Аўгенам і дачкой Натальляй (у замужжы Каракулька) на пачатку 1950-х гадоў. Сп. Аўген, сын праваслаўнага сьвятара, быў шмат гадоў актыўным прыхаджанінам царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Дачка Натальля, выпускніца Ратгерскага унівэрсытэту, удзельнічала ў беларуска-амэрыканскім культурным жыцьці. На ўрачыстам абедзе ў гонар сп-ні Кіркевіч зяць сп. Віталь Каракулька й ягоныя дзеці, Нік і Ніна (усе трое жыхары штату Тэксас), а таксама мясцовыя сябры юбіляркі ўручылі ёй кветкі, падарункі ды прасьпявалі Happy Birthday.



*На здымку: Сп-ня Кіркевіч (сядзіць пасярэдзіне) справа ад яе зяць Віталь Каракулька, а зьлева Віла Леўчук і Ліза Літаровіч; стаяць (зьлева) Ірэна Цупрык і Янка Запруднік, унукі сп-ні Кіркевіч Ніна й Мікалай (Нік) Каракулькі й Надзя Запруднік.*

## Продкі мэра Нью-Ёрка родам зь Беларусі

Газэта "Нью-Ёрк Таймс" (21.X.2013), падаючы вестку пра уганараваньне мэра Нью-Ёрка Майкла Блюмбэргу высокай габрэйскай узнагародай ("Габрэйская Нобэлеўская Прэмія"), якая будзе яму ўручаная ў Ерусаліме ў травені наступнага году, напісала наступнае: "Сп. Блюмбэрг – унук эмігрантаў з Расеі, адтуль, дзе цяпер Беларусь".

## 365 дзён зь беларускай гісторыяй.

Пакуль «кожны піша ўласны працяг» беларускай гісторыі сваімі сёньняшнімі ўчынкамі і дзеяньнямі, кампанія «Будзьма беларусамі!» працягвае тыражаваць гісторыю ў штодзённае жыцьцё. "Круглы год зь беларускай гісторыяй" — пад такой назвай быў выдадзены каляндар на 2014 год паводле аднайменнага анімацыйнага фільма.

Цягам году штодня з кожным уладальнікам гэтага календара будуць яскравыя селебрыці беларускай гісторыі, пераасэнсаваньня ў вершах падзеі і непарушна добры настрой.

Адаптацыю кадраў мультфільма для календара зрабіла Юлія Рудзіцкая, а вершы перапісаў пад каляндарны фармат Лявон Вольскі. Хай найцікавейшая беларуская гісторыя будзе з намі круглы год!

Каляндар у Беларусі можна набыць у кнігарнях: Акадэмкніга, Кнігарня пісьменніка, кнігарня "Ў", кнігарня Веды, Цэнтральная кнігарня, кнігарня "Кнігі і кніжкі", кніжная выстава на ВДНГ.

*Паводле сайту ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Маркі з "Пагоняю" ў Амэрыцы

Беларус Уладзімір Слабін, які жыве каля Сіэтлу, па ягоных словах, "надта ўжо хацеў на свае вочы пабачыць легальныя амэрыканскія маркі з "Пагоняй". І гэтую сваю мару ён здолеў ажыцьцявіць уласнымі сіламі. Уладзімір замовіў іх 40 штук - якраз з той "Пагоняй" з гербоўніка Эразма Ком(н)іна, той, што зьўляецца эмблемай БАЗА і зьмешчана на шапцы газеты "Беларус" і на яе сайце. Сп. Уладзімір атрымаў іх і частку пераслаў у рэдакцыю нашай газэты, каб скарыстаць дзеля рассылкі выданьня. У сваім лісьце ён напісаў: "Прыватныя маркі - яно, канечне, gimmick. Але ня думаю, што ў наш час гэта нейкае несур'ёзнае ўшанаваньне беларускасьці. У кожным разе гэта дасяжны спосаб, а разлічваць, што пошта Злучаных Штатаў афіцыйна выпусьціць маркі нейкай там Беларусі - прыйдзецца надта доўга чакаць».

## Латвійскія беларусы сьвяткуюць...

23 лістапада сёлета Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" адзначае 25-годзьдзе з дня заснаваньня.

Сардэчна віншуем усіх сяброў "Сьвітанку" і персанальна сп. Вячку Целеша, які быў і ёсьць душою Таварыства.

З нагоды сьвята свой верш юбіляру даслаў паэт Сяргей Панізьнік, даўні сябра латвійскіх беларусаў:

### Auseklis над Рыгай

*...Быў бы Райніс удзячны сябрыне:*
*плытагоны ўтрымалі стырно !*
*У "Сьвітанку" хлапцу і дзяўчыне -*
*дзе Айчына? - чутно і відно.*
*Прытуліцца змаглі, ўкараніцца,-*
*вольнай Латвіі цешаць агні.*
*Узышла над "Сьвітанкам" дзяньніца*
*абярэгам спрадвечнай радні.*

(Аўсэкліс /латышск./-- заранка, дзяньніца).

*Сяргей Панізьнік*

## Сёе-тое з Англіі

У Англіі зьявілася кніжачка-успаміны пад назовам «З майго жыцьця. Мітрафорнага Пратаярэя Міхаіла Іскрыцкага» Кніжка з 80 бачынамі была выдана пасьля 2004 году.

У Англіі часта выступаюць беларускія спартоўцы-тэнісісты – Вікторыя Азаранка, Макс Мірны і іншыя.

Ангельская газэта "The Daily Telegraph" у ліпені і жніўні шмат пісала аб тым, што расейскае прадпрыемства «Уралкалій» разышлося зь беларускім «Беларуськаліем» у супольнай прадажы калійных угнаеньняў. «Уралкалій» абвінавачвае беларускіх партнёраў у парушэньні дамоўленасьцяў. Гаварылася, што такая сытуацыя можа прывесьці да падзеньня цэнаў на калій у сьвеце. Газэта таксама паведамляла пра арышт у Менску генэральнага дырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баумгэртнэра.

У гэтай жа газэце "The Daily Telegraph" ад 1 жніўня пісалася , што ў забруджанай радыяцыяй рацэ Парыпяці быў злоўлены вялікі сом вагою аж 56.6 кг.

*Міхась Швэдзюк*

## Слаўны юбілей Згуртаваньня беларусаў Канады

28 лістапада спаўняецца 65 гадоў с таго часу, калі ў 1948 годзе ў Таронта было створана Згуртаваньне беларусаў Канады. ЗБК было заснавана групаю беларусаў, якія прыехалі ў Канаду ў другой палове 40-х гадоў. Ініцыятарам групы і яе кіраўніком быў сп. Кастусь Акула.

Сёньня ЗБК – гэта адно са старэйшых, буйнейшых і актыўнейшых беларускіх грамадзкіх аб'яднаньяў у замежжы.

Ад імя Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуем зь юбілеем нашых шаноўных калегаў і паплечнікаў у працы па захаваньню беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы. Шмат гадоў мы падтрымліваем сяброўскія кантакты, ладзім сумесныя Сустрэчы канадыйскіх і амэрыканскіх беларусаў, наведваемся ў гасьціну.

Жадаем нашым дарагім сябрам і далей захоўваць свой імпэт і цьвёрдасьць на шляху служэньня беларускай справе на чужыне. Добрай сяброўскай атмсфэры, узаемадапамогі і падтрымкі, братэрскага яднаньня вам ва ўсіх грамадзкіх справах.

Няхай жыве Беларусь у Канадзе!

*Галоўная управа БАЗА,*
*Нью-Ёрк*

## Навіна з Вашынгтонскага Гуртка БАЗА

Сп. Алеся Кіпель, былая старшыня Гуртка паведаміла 14 лістапада Галоўнай управе БАЗА, што на Сходзе Гуртка новым старшынём быў абраны Вячаслаў Бортнік. Сп. Алеся засталася ў кіраўніцтве Гуртка на пасадзе заступніка старшыні.

## Ліст у Рэдакцыю

Шаноўная Рэдакцыя!

Я дзякую за апублікаваньне майго насьвятленьня аб тым, што быў надрукаваны непрыхільны артыкул да слоўніка Янкі Станкевіча. Я чуў ужо даўно гэты напад, быццам Янка Станкевіч уводзіць у беларускую мову нядобрагучныя словы. Але гэта наўмысна так пішуць, каб панізіць вартасьць слоўніка.

Дасылаю таксама мой верш, калі ён варты публікацыі.

***

*Далёка ад Роднай Краіны*
*Мне водны быў шлях-акіян.*
*Прыбыў я сюды зь Беларусі,*
*Спрадвеку дзе жыў індыян.*

*Статуя Свабоды вітала,*
*Узьняўшы ўгору свой зьнич*
*«Ты вольны, свабодны! - сказала,*
*Із слаўнага роду крывіч».*

*Я глянуў у неба вачыма*
*І ціха малітву шаптаў:*
*«О, Дзякуй Табе, Усявышні,*
*Я ж волі гадамі чакаў»*

*Ля слаўнага места Нью-Ёрку*
*Сваё вандраваньне спыніў,*
*Калі на зямлю Вашынгтона*
*Я ў месяцы лютым ступіў*
*1974 год*

*З пашанаю,Кастусь Верабей*

## Каляндар памятных датаў на сьнежань 2013 года

**7 сьнежня** - 70 гадоў таму, у 1943 годзе, у Менску забіты Вацлаў Іваноўскі, грамадзка–палітычны дзеяч, бургамістр Менску пад час акупацыі

**9 сьнежня** – 40 гадоў таму, у 1973 годзе, у Вільні памёр Янка Шутовіч, грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнавец

**10 сьнежня** – Сусьветны дзень Дэкларацыі правоў чалавека

**10 сьнежня** - 125 гадоў таму, у 1888 годзе, нарадзіўся Мікола Дзямідаў, вайсковы і грамадзкі дзеяч, арганізатар батальёна самаахові ў Лідзе

**15 сьнежня** – 30 гадоў таму, у 1983 годзе, у Магілёве адкрыўся Музэй мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі

**24 сьнежня** - 215 гадоў таму, у 1798 годзе , нарадзіўся Адам Міцкевіч, паэт, асьветнік, філямат

**25 сьнежня** – Каляды (Божае Нараджэньне) паводле грыгарыянскага календара

**26 сьнежня** – 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Вінцук Адважны, каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі

**27 сьнежня** – 380 гадоў таму, у 1633 годзе, памёр Мялецій Сматрыцкі, царкоўны, грамадзка-палітычны дзеяч, пісьменьнік-палеміст

**28 сьнежня** – 105 гадоў таму, у 1908 годзе, у Вільні заснавана выдавецтва "Наша хата"

### *Віншаваньне сп.Раісе Бабаш*

*Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА і Парафіяльная рада Сабору сьв. Кірылы Тураўскага сардэчна віншуюць са слаўным юбілеем з дня народзінаў сп. Раісу БАБАШ і зычаць ёй моцнага здароўя, нязгаснай прыгажосьці, аптымізму, шчасьця і шмат радасных дзён на далейшым жыцьцёвым шляху.*

### *Віншаваньне сп. Аляксандры Лістоўскай*

*Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА і Парафіяльная рада Сабору сьв. Кірылы Тураўскага віншуюць сп. Аляксандру Лістоўскую з нараджэньнем унучкі. Зычым бабулі добрага здароўя, няхай гэты цудоўны прыбытак у сямьі прынясе новы стымул для жыцьця і адчуваньне поўнага чалавечага шчасьця. А немаўлятку жадаем доўгага і шчасьлівага лёсу, няхай расьце на радасьць бацькам і ўсім родным!*

## Бруклінскі Аддзел База запрашае на сьвяткаваньне Новага 2014 году ў кампаніі сяброў і знаёмых

**У праграме:**

- **стравы беларускай кухні**
- **беларуская і амэрыканская танцавальная музыка**
- **сьпевы да раніцы (караоке)**
- **добрая сяброўская кампанія**

**ЦАНА КВІТКОЎ ПРЫ ЗАМОВЕ ДА 15 СЬНЕЖНЯ:**

**Для сяброў БАЗА – 70 даляраў ад асобы старэйшай за 12 год**
**Для астатніх гасьцей – 80 даляраў ад асобы старэйшай за 12 год**

**Пры замове 8 квіткоў (поўны столік) цана кожнага квітка складае 65 даляраў (520 даляраў за 8 штук).**

**Дзеці да 12 год могуць браць удзел бясплатна.**

ФОРМА ЗАМОВЫ КВІТКОЎ:

Прозьвішча ____________________
Імя ____________________
Адрас ____________________

Горад ____________ Штат ______ Пашт.код ________
Прашу выслаць па ўказаным адрасе ______ квіткоў на сьвяткаваньне новага году 31 сьнежня 2013 году. Залучаю аплату на суму ________ даляраў у выглядзе:
[ ] Чэк [ ] Money Order [ ] Аплата па картцы
Імя на картцы: ____________________

Нумар карткі: ____________________
CVV-код ________ Паштовы код ________
Подпіс: ____________________

ФОРМУ ЗАМОВЫ ПРОСІМ ВЫСЛАЦЬ ПОШТАЙ ПА АДРАСЕ:
Valery Dvornik, 172 Mill Spring Road, Manhasset, NY 11030
Тэлефон для даведак: (516) 359-0164

## Сумная вестка з Рыму

6 лістапада 2013 году памерла Марыя Пецюкевіч, дачка вядомага беларускага этнографа, педагога і мемуарыста Мар'яна Пецюкевіча. Мела толькі 70 год. Нарадзілася сп. Марыя 3 студзеня 1943 году ў Вільні. Маленькай зьведала ГУЛАГ, разам з бацькам была рэпрасаваная ў 1949 г. Пасля вызваленьня сям'я пераехала ў Польшчу. Пазьней Марыя Пецюкевіч выехала ў Рым, дзе працавала ў Ватыканскім радыё да выхаду на пенсію. Праз усё жыцьцё заставалася шчырай беларускай патрыёткаю.

Шмат намаганьняў сп. Марыя прыклала дзеля захаваньня і папулярызацыі спадчыны свайго бацькі Мар'яна Пецюкевіча. За ўласныя грошы выдала яго кніжкі. Сабрала і захавала багаты матэрыял пра ягонае жыцьцё і дзейнасьць.

Паховіны адбыліся ў польскім касьцёле св. Станіслава ў Рыме, у пятніцу 8 лістапада. Разьвітацца з нябожчыцаю прыйшло шмат людзей.

Сьветлая ёй памяць!

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

Сільвестр Будкевіч - $ 50
Аляксандр і Наташа Вакуліч - $ 75
Кастусь і Марыя Верабей - $ 20
Кацярына Вініцкая - $100.
Яўгенія Гурыновіч - $ 50
Марыя Дзямковіч - $ 50
Жанна Карнілава - $50
Ілля Куніцкі – $ 25
Багдан Паўк $ 20
Мікола Сьняжко $50
Уладзімір Слабін $35 і ахвяраваў паштовыя маркі з выявай "Пагоні" для рассылкі газэты
Валянціна Трыгубовіч $ 20 замест кветак на магілу Віктара Маркаўца
Валянціна Трыгубовіч $20 замест кветак на магілу Віктара Івашкевіча
Андрэй Цвікевіч - $50

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за кампютарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісваць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэкламадаўца.*